# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1971
Студзень-
Люты

Год XIX
№ 1 (124)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

Year XIX January—February № 1 (124)

1971

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XIX СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ № 1 (124)


# Дабравешчаньне

**На ўспамін і памятку 25-га САКАВІКА 1918 году —**
**дзень абвешчаньня незалежнасьці БЕЛАРУСІ.**

Так Бог рашыў калісь адвеку,
Каб даць збаўленьне чалавеку:
Прыйшло людзтво да зьнемажэньня,
Чакаючы на адраджэньне,
Не пасылаў Бог на плянэту
Ні Сына й Духа — на прасьвету . . .

Аж вось нарэшце ў час прызнаны
Бог адчыніў таёмны пляны! —

Да чыстай Дзевы ў Назарэце,
Што Бог здаўна меў на прыкмеце,
Зьявіўся Анёл-Пасланец
І кажа: — Бог паслаў — Айцец
Мяне к Табе: Будзь прывітана!
Ты — зорка ясная, што рана
Прад сонцам сьвеціць так прыгожа. —

А тваё слова радасьць можа
Даць сьвету цэламу ў нядолі,
Бо я прыходжу з Божай волі. —
(А ён — Арханёл Габрыель —
Апранены ў бліскучу бель) —
Гаворыць: —
— Табе прыношу вестку нову:
Ня бойся, вер ты майму слову!
Што выбраў Бог Цябе адзіну
З жанчын на Матку Свайму Сыну. —

Ён будзе слаўны бесканечна
І на зямлі і ў небе вечна:
Засядзе на Давіда троне —
Народ ад грэху абароне. —

МАРЫЯ:
— Хоць ты мне кажаш — воля Божа,
Ды якжа гэта стацца можа?
Хоць, праўда, мужа я ўжо маю,
Яго не знала і не знаю . . .

АРХАНЁЛ:
— Знаць будзе Бог адзін і Ты:
На Цябе зыйдзе Дух Сьвяты,
А найвышэйшай Божай сілай
Ты станеш Сыну Маткай мілай. —

І твая цётка Аліжбета,
Хоць і старэнькая кабета, —
Рэч нячуваная ніколі —
Мецъ будзе сына з Божай волі.
І шосты месяц яна ходзіць —
Чакаць нядоўга і народзіць:
У Божай моцы — у адзінай —
Ня будзе справы немагчымай . . . —

МАРЫЯ:
— Я ў сэрцы справу разважаю —
Бог загадае — я прыймаю:
Буду служыць я ў новым стане, —
Хай мне па слову твайму стане! —

Арханёл рады быў нязьмерна,
Што так пасольства справіў верна!
Вярнуўся ў неба ў сонца сьвеце,
А Божы Сын зажыў на сьвеце . . .

*а. Язэп Гэрмановіч.*

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

*(Працяг)*

## IX

## У СЬВЯТОЙ ЯРДАНСКАЙ ПЛЫНІ

*«Во Іордане крещающуся Тебе, Господи, Тройческое явися поклонение».*
З Трапара Хрышчэньня Гасподнега.

Адзін пералік наведаных сьвятых месцаў у Ярданскай Палестыне будзе салідным. Акрамя ўжо названых раней месцаў тут варта назваць агляд Віфаніі, места сустрэчы Госпада з Марфаю, грабніцу Лазара, Дом Сімана Пракажонага, Капліцу Першамучаніка Стафана, Сьвятліцы Марыі Магдаліны ў Гефсіманіі, Дом Іаакіма і Анны — бацькоў Божай Маці, Віфезду, Крыжовы Шлях, Цямнічку, Ліфостротон, Храм каля Суднае Брамы, месца Сергія Раданежскага, Рускі Манастыр на Елеоне, Поле Пастухоў, Соракадзённую Гару, Манастыр Георгія Хазевіта, Лаўру Саввы Асьвячонага, Казанскую ікону Божай Маці, Эммаус, Самарыю, Студню Іякава, Манастыры Іоанна Хрысьціцеля, Мёртвае мора, Іерыхон, Елеонскі Сад у Іерыхоне, Іасафатаву Даліну, Столп Авессалона, Сілоамскую купальню, Хэўрон, Дуб Маўрыйскі, Манастыры Вялікамучаніка Георгія і прарока Ільлі, Рускі скіт пры Дубе Маўрыйскім, Пячору пракрокаў, Храм «Ойча Наш», Келью Прэпадобнай Пелагеі, царкву роўнаапостальскага князя Ўладзімера, Малую Галілею і, нарэшце, Іардань.

І цяпер Усевалад Ціхановіч прыгадвае тыя наведаныя мясьціны: перад яго вачыма, як жывыя, паўстаюць абразы сьветлай дарогі з Віфаніі — дому фінікаў або «беднасьці», па-арабску — «Эль-Азарыя» — у Ерусалім, па якой наш Збаўца на осьліку ехаў у Сьвяты горад, а цяпер у Вербную суботу праваслаўныя ідуць крыжовым ходам. Удзячлівая памяць аднаўляе абраз Віфанскае праваслаўнае школы з інтэрнатам для арабскіх праваслаўных дзяўчатаў на чале з Ігуменьняй Марыяй і Матушкай Марфаю. Увушшу да гэтага часу зьвіняць галасы дзяўчатак, іх гульні і песьні ў часе перапынку ад працы па абслугоўваньні паломнікаў. Нельга не адзначыць з пачуцьцём глыбокае ўдзячнасьці ахвярную працу праваслаўных манашак і настаўнікаў гэтае школы, якія безінтэрэсоўна аддаюць справе выхаваньня і навучаньня мясцовых арабак гэтулькі часу і энэргіі, што міжвольна сьхілішня перад падзвіжніцтвам Божай справе. А гэта ж дзьве ангелькі, што праняліся праўдаю праваслаўя, прынялі яго і пастрыгліся ў манашкі, пазналі паўнату веры і пасьвяцілі сябе працы на дзяцей. Дзякуючы іхняй актыўнасьці Віфанская школа набыла сярод Палестынскіх арабаў шырокую вядомасьць. Пазьней Марыя сталася настаяцельніцай сястрычаства пры Храме Марыі Магдалены ў Гефсіманіі, а Марфа жыве пры Школе ў Віфаніі. Дзякуючы ім сярод арабаў падтрымваецца разуменьне хрысьціянства, а дзяцей вучаць царкоўнаму пяяньню і літургіі. На двары школы знойдзены камень з надпісам па-грэцку: «Тут Марфа і Марыя пачулі ад Госпада слова аб Уваскрошаньні з мёртвых ...« На тым месцы стаіць капліца, у якой у Вербную сыботу адбываецца служба з крыжовым ходам і вадахрыстам.

Да паездкі на Іардань Усевалад Ціхановіч рыхтаваўся загадзя. Ён ужо за колькі дзён да таго дамовіўся з Віфанскай манашкай пашыць для яго даўгую чуць ні да пятаў, белую кашулю. Гэта каб споўніць стары славянскі звычай: у такой кашулі акунуцца ў сьвяшчэннай вадзе. І вось яшчэ ў прыцемку тае раніцы паломнікі рушылі ў Іюдэйскія горы. Мінулі Віфанію, прабег каля іхняга аўтабуса грэцкі жаночы манастыр «Сустрэчы». Неўзабаве пачалі набягаць пустынныя пясчаныя ўзвышшы: яны часам выдаваліся нейкімі шэра-таемнымі зданямі. Дарога то крута ўздымалася ўверх, то раптам пачынала адхонна падаць уніз. Тады неяк замірала, нібыта адрываючысь, сэрца, і жанчыны боязка ўглядаліся ў вочы суседзей-мужчынаў, нібыта шукаючы ратунку на выпадак няшчасьця. Адылі машына пачала спаўзаць ўсё ніжэй і ніжэй у даліну. Хутка заблішчалі першыя палоскі далёкага Мёртвага мора справа, а ўперадзе паказаліся і першыя праблёскі Іардана з-пад нязвычнае ў пустыні зеляніны. Гэта сюды прыносіць з Ліванскіх гораў свае мутныя воды сьвяшчэнны Іардан, каб затым уліць іх у глыбокую чарку салёнае вады — Мёртвае мора. Тут ажывае пустыня. Густыя зарасьнікі сікамораў, тапаляў і чароту захоўваюць раку ад пабочных вачэй. Увесну, калі многаводны Іардан пакідае свае берагі, ён аддае пустыні багата вільгаці, і яна вакол ажывае рознакалёрнымі краскамі. Пасьля ўлетку ўсё гэта гіне пад бязьлітасным сонцам, якое выпальвае кажную адзнаку жыцьця.

Іардан быў асьвечаны для нас хрышчэньнем Госпада Іванам Хрысьціцелем, калі ён

прапаведваў народу ізраільскаму пакаяньне і ачышчэньне на берагох гэтай ракі. Тут адбылося цуда пераходу ракі пад кіраўніцтвам Ісуса Навіна пасухому пры звароце ў Зямлю Запаветную. Тут жа пасухому пераходзілі раку прарокі Ільля і Елісей, а Нееман, вайсковы начальнік сірыйскі, вылячыўся ў гэтых водах ад праказы.

Паломнікі пад'ехалі да месца Хрышчэньня Збавіцеля. Гэта адно ў пяці кілёмэтрах ад Мёртвага мора, дзе бераг больш скаціcты. Каменная лесьвіца вядзе да вады. Тут на Вадохрышча вада асьвячаецца штогоду. Але і цяпер пад навесам пачынаецца Божая Служба. Уладыка Мэфодзі сам моліцца на ваду, ўздымае высака сьвяты крыж і адбывае вадохрышча. Кажны паломнік падыходзіць пад Уладыкавае багаслаўленьне і атрымвае абдораньне ўжо пасьвечанай Іарданскай вадой. А пасьля распачынаецца купаньне ў сьвятой рацэ. Мужчыны зьлева пад навесам, а жанчыны наводдалі справа, адлучаныя дзялянкай гаю, пачынаюць пераапранацца і з асьцярогай спушчацца з адхону, каб папялёхаць хоць ногі ў сьвятой вадзе. А сьмялейшыя нават заплываюць на сярэдзіну, каб там пазмагацца з віратліва-хуткай плыньню. А тая гэтак і стараецца зьнесьці цела сваім хуткабежным цёкам. Патрэбна нямала спрыту і спрактыкаванасьці каб ня даць сябе пераадолець. Трэба ўмець добра трымацца на паверхні вады, бо дно каменнае, поўнае выбоінаў і зыбкае гліны.

Усеваладу ўдалося моцнымі ўзмахамі рук адразу дапяць сярэдзіны ракі, але тут яго і злавіла хуткая плынь. Як ён ні стараўся падацца ўперад супраць цёку, апошні яго, аднак, больш адносіў назад. Нарэшце, змогшыся, ён пакінуў думку плыць ўверх. Быў рады што здолеў выбрацца на бераг, значна ніжэй па рацэ. Пасьля яшчэ быў заплыў на сярэдзіну, але даўгая кашуля блыталася паміж ног і не давала змогі вольна кіраваць рухамі. Патрымаўся крыху на паверхні вады, пакуль сябрук рабіў колькі здымкаў Усеваладавага спаборніцтва ды стомлены ледзь выкараскаўся на гліняны бераг. Тут ціхама доўга углядаўся ў жаўтавата-шэрую каламуць, сачыў за безьлічай малых рыбак, што падскоквалі з вады, ганяючыся за маленькімі мошкамі над паверхняй.

«І тут у гэтай імклівай каламуце не абыходзіцца бяз Божага стварэньня, — думаў Усевалад. — Вось жа прыстасавалася неяк гэтая рыбіца да абставінаў жыцьця ў віруючай і мала спажыўнай плыні. Жыве, пацяшаецца самім існаваньнем пад сонцам. А шкада, што багата яе штодня ськідаецца ў Мёртвае мора, дзе яна ў салёнай горкай вадзе адразу і паміраe. Колькі яе, тае бедалакі, ад нязнаньня пазбаўляецца непаўторнага дару жыцьця. І ты, няшчасная, гінеш дарэмна, як гінуць у сьвеце мільёны людзёй ад узаемнае варажнечы і ўсё з-за нязнаньня або недастатковага ўразуменьня вялікіх Божых законаў аб узаемнай любові і даравальнасьці. О, яшчэ трэба шмат папрацаваць носьбітам Хрыстовае праўды, каб зрабіць яе набыткам усяго чалавецтва. А толькі тады станецца на зямлі той мір і ласка, якія адно могуць прынесьці шчасьце ўсяму людзтву. Дык працуйма больш аддана, каб гэта сталася!»

З гэтымі думкамі Усевалад пайшоў пераапранацца. Збоку, недалёка ад Водахрышча, ініцыятыўны араб адчыніў крамку халодных водаў. Даўгая чарга выстраілася за лімaнадам. Кажны стараўся хутчэй заліць сваю смагу, а ў бутэлечку набраць сьвятой Іарданскай вады. Араб заўважыў, што пакупнікі зьнікаюць з бутэлькамі. Загадаў плаціць аж даляр закладу. Але і гэта не спыніла руплівасьці паломнікаў да сьвячонае вады. Усевалад ахвотна заплаціў свой даляр, каб мець ува што набраць тае вадкасьці, пра цудоўную сілу якое ён чуў яшчэ з маленства ад сваіх бабак і дзядуляў. Тут манашкі-паломніцы таксама расказвалі пра цудадзейныя здольнасьці гэтае вады. Гаварылі таксама, што яна ніколі і ня псуецца, хоць трымай яе ўсё жыцьцё, а калі чалавек верыць у яе, дык лечыць ад усіх хваробаў.

Так, ці ня гэтак, Усевалад набраў яе бадайшто з самае сярэдзіны ракі, бо зачарпнуў яе, прыгнуўшыся з носа лодкі, што на ланцугу стаіць на месьце вадохрышча. Ён цешыўся з думкі, што давязе яе, як найдаражэйшую рэлігійную рэліквію аж у Амэрыку і пасьля па крысе будзе там адліваць сваім знаёмым, каб вызваляць іх ад дзе-якіх немачаў.

Тут жа зараблях бэдуін з вярблюдам ўва ўсёй красе вайсковай формы. Ён даваў змогу двум малым хлапчукам-паломнікам узлазіць на вярблюда, сядзець на ім, трымаючыся рукамі за горб, каб бацькі тым часам фатаграфалі іх. Найшлося колькі і дарослых — аматараў увекавечыць сябе на фотакартцы ў якасьці экзатычных наезьнікаў. А адна, надта ж ужо даходлівая паломніца, дык пастаралася вырабіць сабе цэлую стузіну падобных здымкаў. Казала, што раздасьць знаёмым, каб ведалі якая Жэня баявая жанчына. «Ну, што ж, кажды можа бавіцца пасвойму, абы каб блага не рабіў», — апраўдваў яе Ўсевалад.

Тымчасам прышоў час рухацца далей. На гэты раз усіх чакала Мёртвае мора. Яно ўжо здалёку варажыла нязнанымі чарамі. Машына запынілася каля прыморскае Гасьцініцы. За даўгім павільёнам пад адчыненым небам на тэрасе кафэ разьмясьцілася шмат столікаў. Далей у бок мора ляжала рудое, без расьцін-

кі, укрытае каменчыкамі, поле, а за ім бліскацела і іскрылася пад сонцам далёкая водная гладзь.

Бальшыня паломнікаў адразу кінулася ў кафэ, каб задаволіць смагу. Усевалад пабег да мора. «Вось яно тое славутае Мёртвае мора, аб якім столькі чуў і чытаў, — думаў ён, паскорана крочачы да вады. — Здалёку яно здаецца і прывабнае і прыгожае. Але ці такім яно будзе зблізу? Ня ўсё тое золата, што блішчыць».

І сапраўды, яно выявіла сябе іншым, калі Усевалад апынуўся каля самае вады. Яна, праўда, была празрыстая: кажны каменьчык пабліскаваў сваёю бялізною з-пад вады. Усевалад прайшоўся далёка ўперад па даўгой драўлянай кладцы, пабудаванай, відаць, для патрэбаў купальшчыкаў. У канцы яе ён пабачыў двух старога веку людзей. Яны боўталіся ў вадзе. Адзін з іх на разьвітаньне хацеў даць нырца. Адылі вада ўвесь час выносіла ягонае хударлявае цела на паверхню, і яно ўзьбітым наповерх бервяном паказвала свае рэбрыны то адным, то іншым бокам. Нарэшце стары вылез і растлумачыў ламанаю ангельскаю моваю, што вада не дае змогі нырцаваць, бо ў ёй аж занадта багата солі, што выціскае цела наўзьверх. У вадзе той ня можа існаваць ніводная істота. Тут ні рыбы, ні расьцінаў. У самой вадзе нібыта мёртвая пустэльня. Адно і багатая яна сольлю і поташам. Вунь на тым баку у Ізраілі ўжо эксплюатуюць тое багацьце для патрэбаў сельскае гаспадаркі і ўвесь сьвет забясьпечваюць поташам. А ў нас тут адно гасьцініцу пабудавалі, каб мы сузіралі адгэтуль прыгажосьць тае вады ды здалёку любаваліся відовішчам Мааўскіх гораў, распазнавалі на паўночным захадзе гару Нева, дзе, паводле паданьня, памёр раб Гасподні Майсей.

Хутка абодвы старыя пабеглі ў гатэль пад душ змываць з сябе соль, а Усевалад, закасаўшы штаніны, пачаў хадзіць па мяльчэйшым месцам, каб на собскай скуры адчуць салонае мора, што хавае ў сваіх водных нетрах два патопленыя за грахі гарады. «От бы прасякнуць туды вучоным вокам, каб пабачыць тыя таямніцы шматтысячагодняе даўнасьці!»

З гэтымі словамі ён хуценька апрануў чаравікі і за момант быў на тэрасе. А там ужо сястра-манашанька паказвала на бачныя ў сіняй смузе Іудзейскія горы, расказвала пра знаныя сьвету скруткі сьвяшчэннага пісаньня, знойдзеныя арабскімі пастушкамі ў пячорах, тыя самыя, пра якія сваім часам пісалася намала ў Эўрапэйскім і Амэрыканскім друку і якія ўжо Ўсеваладу давялося надоечы разглядаць у Ерусалімскім Этнаграфічным музэі. Было радасна, што такія важныя дапаўненьні сьвятога пісаньня не загінулі і цяпер саслужаць добрую службу чалавецтву ў сэньсе канчальнага выпрацаваньня кананічнага тэксту кнігі кнігаў і дапамогуць выясьніць дзе-якія цьмяныя месцы ў Бібліі.

І знянацку вынырнуў з-за гораў вялізарны аазіс, увесь у пышнай зеляніне Ерыхон. Гэта той самы Ерыхон, які першым быў забраны ізраільцянамі пры ўваходзе ў зямлю Абяцаную. Ягоныя магутныя сьцены разваліліся ад аднаго гуку трубаў. Адгэтуль выйшлі такія прарокі, як Ільля і Елісей. Тут бываў Збавіцель, наведваючы Закхея і вылечваючы Ерыхонскіх сьляпых. Цяпер на ягоным месцы арабская вёска Эр-Рыха дзякуючы аражэньню з крыніцы Елісея ўся ў фінікавых пальмах, бананавых і смакоўнічных садох. Багата цытрусавых дрэваў вакол кажнае хаты. Тут бывае цёпла цэлы год, нават узімку.

Недалёка ад Ерыхона ёсьць Соракадзённая гара, дзе Ісус Хрыстос правёў 40 дзён свайго паста пасьля хрышчэньня і жыў з зьвярыма. За вякі там пражыло жыцьцём праведнікаў шмат пустэльнікаў. Па іх засталося багата пячораў. Прэпадобны Харытон заснаваў там манастыр з царквою, кельлямі на стромай скале над прадоньнем, куды сьпінуўся Сатана пасьля няўдачы спакусіць Госпада. Цяпер манастыр належыць грэкам. Дайсьці да яго можна ад спынку машыны за дзьве гадзіны пеша па вузкай сьцежачцы. Далавах бяжыць па каменнай лагчыне ручай, у ім час-часом стралою праносіцца невялікая стронга. Дзе-нідзе чапляецца карэньнямі за ўсхонную скалу куст зеляніны. Вакол поўнае бязьлюдзьдзе. Поўная адлучанасьць ад сьвету. А далёка на адхоне крутой гары прыляпіўся да скалы будынак манастыра. У ім жыве і моліцца колькі манахаў.

А яшчэ вышэй, на самай верхавіне гары, дзе спакусіцель паказваў Госпаду ўсе царствы сьвету у момант часу, некалі таксама быў Храм. Зараз засталася адно алтарная абсіда пасярод каменнае агарожы.

Манахі сустракаюць паломнікаў звонам званоў. Але яны там нагары нагэтулькі бедныя, што наагул прыходзіцца дзівіцца, чым яны жывуць. І калі глядзіш на манаха, убеленага сівою даўгою барадою, які ўжо даўно страціў лічбу гадоў і жыве абапёрты думкаю аб вечнасьці, калі ён сядзіць на выступе скалы над безданьню і думае пра Бога, пачынаеш разумець, што можа вось якраз такімі ідэалістамі-падзьвіжнікамі ды пустэльнікамі і сьвет яшчэ трымаецца. Бо менавіта яны зьяўляюцца жывым дакорам нашаму разбэшчанаму жыцьцю і служаць узбуджальнікамі нашага сумленьня. Сардэчнае дзякуй ім за гэты чын і за добры ўзор жыцьця ў Бозе, варты насьлядаваньня.

*Др. Тамаш Падзява*

# Жанчыны — настаўнікамі царквы

(Працяг)

### III

Усё жыцьцё св. Кацярыны было нязвычайнае. Здаровая і вясёлая, як апошняе дзіця ў сям'і, яна прычыняла радасьць для ўсяго дому. Але вось пачынаюцца ў ейным жыцьці нязвычайныя здарэньні. Калі ёй было 6 гадоў, аднойчы ў дарозе з братам, яна ўпадае ў экстазу і ўбачыла Хрыста. Брат, не разумеючы, чаму яна затрымалася, пачаў яе тармасіць з гэтага дзіўнага нібы-сну . . . Толькі пасьле яна часткова выясьніла яму: «Ах, каб ты мог убачыць тое прыгожае, што я відзела, дык ты-бы мне не памяшаў!»

З гэтага часу Кацярына так перамянілася, што яе трудна было пазнаць. Яна занята толькі думкамі аб Богу і няпрыкметна пачынае практыкаваць усялякія пакуты і шукае самоты для малітвы. Прытым уцягнула ў малітву сваіх таварышак; разам маліліся, пасьцілі і бічаваліся, а сама Кацярына штораз часьцей у малітве ўпадае ў экстазу. Няведамая сіла ўзносіць яе ў паветра падчас малітвы. Ідучы па сходах, яна нярэдка не датыкаецца нагамі . . .

Маючы 7 гадоў, абяцала Богу ніколі ня выходзіць замуж, каб аддацца толькі Божай службе. Ня есьць мяса, сьпіць на голых дошках і вельмі коратка, а ўночы моліцца.

Калі Кацярына мела 12 гадоў, бацькі пачалі вельмі рупіцца, каб выдаць яе замуж. (У тыя часы ўжо ад такога узросту ў цёплых краях выходзілі замуж!). Кацярына павінна была лепш адзявацца і гэтак спадабацца кавалерам, асабліва таму, якога бацькі ёй выбяруць. Старшая сястра, Бонавэнтура, нагаварыла яе пафарбаваць валасы! Але гэта быў першы і апошні раз і пасьля Кацярына вельмі плакала на ўспамін аб такім «граху». І яна цалкам адмовілася прыхарашвацца, бо не хацела і слухаць пра замужства! Дый бацькі напрасілі сьвятара, каб памог уламаць Кацярыну; той аднак, пагаварыўшы з ею, перайшоў на яе старану. Каб змусіць бацькоў да згоды, Кацярына абстрыгла свае прыгожыя валасы, разрываючы апошнюю нітку, што вязала яе са сьветам! Бацькі палічылі гэта за выразны бунт, супраць іхняе ўлады: не давалі ёй месца і магчымасьці маліцца, прымушалі да самай цяжкой працы і інш. Цяпер уся сям'я выступіла супраць яе, — аж нарэшце Сам Бог абараніў яе!

Аднойчы бацька ўбачыў, што падчас малітвы Кацярыны над яе галавою зьяўляецца дзіўны галубок. Тады стары зразумеў, што змагацца з Богам немагчыма і перасьлед хатніх скончыўся.

Затое сама Кацярына накладае на сябе штораз большыя пакуты: моліцца больш, посьціць, бічуецца, як ахвяра за грахі сьвету.

У 1364 Кацярына запісваецца ў Трэці Закон Сьв. Дамініка. Гэта былі пакутніцы, якія адзяваліся як манашкі-дамініканкі: яны жылі або ў сваіх дамах, або супольна; займаліся апостальствам, апекай і доглядам хворых. Кацярыне іхняе жыцьцё не адпавядала і яна асталася ў сваіх, але ўжо мае каморку, з якой выходзіць толькі ў царкву, з нікім не спатыкаецца і не гаворыць. Так праводзіць тры гады ў маўчаньні, думкамі і ў малітве злучана з Богам. У экстазах (захопленьні) яна забываецца аб усім сьвеце. Хрыстос напаўняе яе такой ведай, што яна задзіўляе сваіх сьвятароў, у якіх спавядаецца і яны сьведчылі, што навучыліся ад яе больш, чым яна ад іх.

І вось прыйшоў час, калі Хрыстос загаварыў з ёй аб вялікай працы, якая чакае яе ў сьвеце. «Адчыні Мне сваімі трудамі дзьверы да людзкіх душаў! Пакажы шлях, якім мае авечкі маглі-б прыйсьці да Мяне і знайсьці пажыву.» Калі Кацарына хісталася, бо ўжо адвыкла ад людзей і ня чуе ў сабе сілы, каб выпаўніць тое, чаго дамагаецца Хрыстос, яна казала: «Жанчыны ня маюць аўтарытэту ў мужчын; а добрыя абычаі не дапускаюць нават, каб жанчына мяшалася ў мужское таварыства». А Хрыстос: «Ці-ж ня Я стварыў мужчыну і жанчыну? Я пасылаю сваю ласку, куды хачу. Для Мяне няма розьніцы між мужчынам і жанчынаю, багатымі і ўбогімі. Мне ня трудней стварыць анёла, чым мурашку, чарвяка ці новае неба. Я хачу, каб ты ведала, што сяньня людзкая пыха, асабліва ў тых, што ўважаюць сябе за вучоных і мудрых, сталася такой вялікай, што мая справядлівасьць ня можа ўжо вытрываць і Я хачу іх засароміць . . . каб яны ўпакорыліся, як жыды і паганцы, калі Я пасылаў да іх простых людзей, напоўненых толькі маей мудрасьцяй. Я пашлю да іх (цябе) нявучоную, з натуры слабую дзяўчыну, моцную толькі маім міласэрдзем і паніжу іхнюю пыху. Калі яны ўпакорацца і пойдуць за табой, Я акажу ім зьмілаваньне. Але, калі яны пагардзяць гэтай выратавальнай пакорай, то Я пашлю на іх такое паніжэньне, што ўвесь сьвет будзе з іх сьмяяцца. А ты слухай Мяне бяз хістаньня,

бо Я хачу паслаць цябе да людзей. Усюды буду Я з табой, буду паведамляць усіх аб тваім прыбыцьці . . . буду кіраваць табой усюды у ва ўсім, што ты будзеш рабіць у маё Імя».

Гэтае багаслаўленьне Хрыста для Кацярыны на шырокую грамадзкую працу было запісана са слоў Кацярыны сьвятым Раймондам з Капуі, сьвятаром, у якога яна спавядалася.

Маладая дзяўчына пачынае паслушна сваю працу ад бацькаўскага дому. Яна дабравольна выконвае самую цяжкую работу, пры якой часта пападае ў экстазу. Адзін раз, калі пякла хлеб, пад уплывам экстазы, звалілася на гарачыя вуглі, аднак агонь ня прычыніў ёй ніякай шкоды. У сваіх братоў і сясьцёр яна пазнае найтайнейшыя думкі. Але скора ейная дзейнасьць пашыраецца: яна апякуецца ўбогімі, аддаючы ім усё, што толькі можа. Сам Хрыстос зьяўляўся ёй у постаці ўбогага, а пасьля зьвяртаў ёй грошы і вопратку, што ад яе атрымаў. Спатыкае Хрыста ў сьвятынях гораду Сіены, а людзі дзівуюцца з ейнага дару малітвы.

У 1368 у Сіене пачалася рэвалюцыя: у часе вайны Кацярына выратавала цудам ад сьмерці двух сваіх братоў, а пасьля памірыла ваюючыя староны.

З таго часу захаваўся расказ Кацярыны сьвятому Раймонду: малады чалавек, Мікалай з Тульды, быў чужынцам у Сіене і быў западозраны, што бунтаваў народ супраць багачоў. Яго несправядліва засудзілі на сьмерць. Ратаваць яго ад сьмерці было ўжо запозна дый Мікалай — у роспачы — не хацеў прыняць сьвятара і спавядацца. Перад днём сьмерці прышла да яго Кацярына. Ужо яе выгляд праконваў аб існаваньні другога, шчасьлівейшага жыцьця. Мікалай прасіў яе: «Прыдзі заўтра і будзь пры мне: я тады буду чуцца добра і ахвотна прыму сьмерць». І сапраўды, калі ён прыбыў на месца, Кацярына ўжо была там і палажыла сваю галаву на плаху, каб адсеклі ёй, замест Мікалая, — аж ён пачаў з таго моцна сьмяяцца. Яе, ведама, стуль адсунулі. Тады Мікалай прасіў яе, каб яго багаславіла. Кацярына цэлы час яго ўспакойвала, — і ён паўтараў імёны Хрыста і Кацярыны.

Калі яму адсеклі галаву, яна ўзяла галаву ў рукі з малітвай і ў вялікай-нязьмернай радасьці ўпала ў экстазу: убачыла душу Мікалая, які радасна ўсьміхаўся да яе . . . Казала: «Я зразумела, што ён — у міры і супакоі. Ён прышоў на сьмерць пакорна, як ягнятка».

1370 год асабліва быў багаты на містычныя перажываньні. У экстазе Кацярына паміpae містычнай сьмерцьцю: Хрыстос выймае ў яе сэрца і дае ёй сваё. Пасьля вярнуў яе да жыцьця са славамі: «Пакажу цябе Папе і тым, што кіруюць хрысьціянскай Царквою, бо хачу сваім звычаям зламаць пыху сільных-слабасьцяй». Пасьля гэтага на целе Кацярыны зьўляюцца Хрыстовыя раны — стыгматы.

Яна ні на хвіліну не перарывае сваей дзейнасьці . . .

---

*а. Аляксандар Надсон*

# Малітвы пры сьвятой літургіі 1695 г.

*(Працяг)*[1]

Ґды потом священник мовит: «И сподоби нас Владыко со дерзновеніем», і прочая, теды и ты тыеж слова в сердци своем яко з найболшою скрухою повторивши, читай набожне Молитву Панскую, то ест «Отче наш», в которой молитве седм замыкается прозб. Розмышляй зась и на память собе приводи седм слов Збавителевых на Кресте выреченых. А тые суть:

1. Отче отпусти им, не ведять бо что творят. Лука 23.
2. Аминь гляголю тебе, днесь будеши со мною в Раи. Тамъже.
3. Се мати твоя, се сын твой. Іоан 19.
4. Боже мой, Боже мой, почто мя еси оставил. Мат. 27.
5. Жажду. Іоан 19.
6. Совершишася. Тамъже.
7. Отче, в руце твои предаю дух мой. Лука 23.

Ґды зась мовит священник: «Мир всем», а діакон: «Главы ваша Господеви преклонете», розмышляй вызнаніе по правом боку висячого разбойника, и его покорную до Пана молитву, а вызнаваючи свои грехи, и винным ся з них даючи, покорне, абы тобе як оному лотрови отпущены были, проси, склонивши зась голову, мов тую молитву:

Тебе Господи главу мою прекланяю и, яко блудный сын возвращаюся к тебе, вопию: Отче небеси и земли, согреших на небо и

---

[1]) Пачатак гл. «Божым Шляхам» № 5 — 1970, ст. 7; № 6 — 1970, ст. 5.

пред тобою, и несм достоин нарещися не точію сын, но ниже раб твой. Сотвори мя яко единаго от наемник твоих, и укрепи творити добрая дела, яко един вся могій.

Ґды знову священник мовит: «Благодатію и щедротами» и прочая, якобысь оный голос неґдысь мовленый до разбойника, до тебе волаючого Сына Божого слышал: «Днесь будеши со мною в раи». Вер и уфай моцно иж през всемилостивую ласку, през выляніе пренайдорожшой Крве и през поднятіе збавенной Его смерти, покутуючи грехов своих разрешеніе и зуполное отпущеніе, як и оный лотр, одержиш. З скрухою теды сердечною набожне читай молитву тую:

Молитва егда речет священник: «Благодатію и щедротами». Боже вседержителю, всю тварь премудростію создавый, и мене падша многими согрешенми своею созижди рукою. Подажд ми твою помощ, сподоби мя от мирских востати крамол, умилосердися и презри ми вся елика согреших тебе, помажи мою душу единороднаго Сына твоего Господа Бога и Спаса нашего Іисуса Христа благодатію, с ним же тебе подобает всяка слава, и со Святым Духом во веки, Аминь.

Ґды зась мовит діакон: «Вонмем», а священник: «Святая святым», ты зараз з великим набоженством и з сердечною покорою поклонися до земли, а потом подведшися и поклякнувши на колена, розмышляй яко Збавитель на кресте умираючи и пресвятую свою душу Богу Отцу в руки отдаючи волал, и якобысь сам своими ушима голос оный слышал, набожне проси, абы и твоего духа, часу смерти твоей в руки свои приняти рачил. Туж зараз мов тую молитву:

Молитва егда речет священник: «Вонмем, святая святым»: Пресвятая Троице, единосущная. Писано в обедницы, лист 104.

Мов тую молитву:

Едине Святе святых, едине Цару царствующих и Господи господствующих, Іисусе Христе, Боже мой, тебе сущему в нядрех и в славе превечной Бога Отца, пострадавшему же нас деля, и под видом хлеба и вина в пречистых сих Тайнах истинному Богу и человеку, якоже и на небеси сущему, покланяюся, и тебе славля яко Бога и Спаса моего молю, призри на мя в час сей и во вся дни живота моего, и помилуй мя, в день же разлученія душа от тела моего пріими и в руце твои с миром и, пощадив, со святыми покой.

А ґды почнуть спевати кинОникон, то ест песнь до причастія Таин Божественных, набожне розмышляй, яко на кресте пресвятая душа Збавителева розделилася от тела, иже тело его Божественное пред воскресеніем было смертелное и сказителное, з чотырох елементов зложоное; як зась жолнере разделили шаты его под крестом; як часу смерти его чотыри елемента и все немое створене порушилося, на знак чого и священник в тот час пресвятое тело Христово, албо святый Агнец, на чотыри части ламает и разделяет. И зараз в тот же час ґды священник часть едину святаго Агнца кладет в келих, розмышляй, як душа Збавителева моцою бозства своего през крест зступила до аду, и справедливых души вылянем крве своей бозской выкупленные з вязеня высвободил. А затым зараз кгды вливает священник воды теплой до келиха, приводи собе на память, як з пробитого боку збавителевого кровь и вода выплынула. Покорне теж проси абы и тебе грешному, который сердце спасителево грехами твоими прободаеш, очи розуму и души отворити рачил, иж бы обачил слепоту, никчемность и подлость свою, як есть мизернейшая и подлейшая над немые створеня, которые жалость показали при смерти Створителя своего.

А ґды священник причащается, розмышляй яко Збавитель выляніем крве своей пренайдорожшой, и живот дающею смертію своею нас умерлых през грех оживил, з Богом Отцем своим поеднал, з собою з'едночил и спольъдедичами кролевства своего учинил. Як теж и тепер през годное пріймоване пресвятаго Тела и Крве его верных своих з грехов очищает и з собою едночит. Потом зась ґды священник весь остаток божественных таин з дискоса в келих кладет, розмышляй як Збавителево тело з креста знято и в гробе положено. А ґды потом руки священник умывает, приводи собе на память плач и лямент Пречистой Богородицы, и иных побожных людій в он час там будучих.

Ґды зась потом священник покровцем накрывает келих, розмышляй, яко камень великій привалено над усте гроба, и як его запечатовано, и як при нем страж поставлено. Тое теды все собе на память приводячи и набожне розмышляючи, читай тую молитву:

Молитва егда киноник поют.

Пресвятый царю Господи Іисусе Христе, просвети омраченныи очи мои ко познанію твоея истинны, и не омерзи моего воздыханія, зане нечист и скверен сый, дерзаю призывати пресвятое имя твое. Но яко един сведый ум человеч, сам ведый множае нас, ихже от тебе требуем и просим, или разумеваем, сам ныне, Владыко человеколюбче, помяни щедроти и милости твоя и посети мя твоею благостію, яко да вселится в мя и пребывает слово твое, и буду храм пресвятому Ду-

Мл҃твы.

спасителево грѣхами твоими прободаешъ, очи розуму и души отворити рачилъ, ижъ быся оказалъ слѣпоту, никчемность, и подлость свою, яко есть мизернѣйшая и подлѣйшая на нѣмые створенья, которые жалость показали при смерти Створителя своего.

А гды Свщенникъ причащается. Розмышляй яко Збавитель вылянiемъ Крве своей пренайдорожшои, и живот данием смертiю своею насъ умерлы прегрѣхъ оживилъ, з Бгомъ Оцемъ своимъ поедналъ, з собою зъедночилъ, и сполдѣдичами Кролевства своего нбнаго учинилъ, якъ теж и тепер през годное прiимованье Прстаго Тѣла и Крве его, вѣрныи своихъ з грѣховъ очищаетъ, и з собою зъедночитъ. Потомъ зась гды Свщенникъ весь остатокъ Бжственныхъ таинъ з Дискоса в Келихъ кладетъ, Розмышляй якъ Збавителево Тѣло з Крта знато и в Гро

бѣ

Прич. Литург.

бѣ положено. А гды потомъ руки Свщенникъ умываетъ, приводи себѣ на памят плачъ и ламентъ Прчтой Бцы, и иншихъ побожныхъ людiй в онъ часъ тамъ будучихъ.

Гды зась потомъ Свщенникъ покровцемъ накрываетъ Келихъ. Розмышляй, яко камень великiй привалено на усте гроба, и якъ его запечатовано, и якъ при немъ стражъ поставлено. Тое тыды все собѣ на памать приводячи, и набожне розмышляючи, читай тую Млтву.

Молитва егда Кинонiк поютъ.

Пресвятый цру Гди Iс Хрте, просвѣти омраченныи очи мои, ко познанiю твоея истинны, и не омерзи моего возъдыханiя, зане, нечистъ и скверненъ сый, дерзаю призывати

Тя пресвя

*Поўустаў 1695 г. Малітвы пры сьвятой літургіі.*

ху. Настави мя на путь твой, еже ходити во истине твоей, и научи совершати святыню во страсе твоем, яко да и в час исхода душа моея от тела достоин буду пріяти часть святынь твоих. И ныне да со страхом узрю подносимое пречистое тило и животворящую кровь. Ты бо еси истинный Бог мой, тобою надеюся избыти всякаго зла, славя тя со Отцем и святым Духом, всегда и ныне и присно и во веки веков. Аминь.

А ґды отворяют царскіе двери, розмышляючи, иж Збавитель зступивши душею до аду моцою бозства своего брамы его скрушил, души отцев святых высвободил и з собою з него выпровадил; и яко аггел зступивши камень от гробу отвалил, зараз падни на колена. А гды священник, албо діакон, з бозскими тайнами станувши в царских дверех, мовит: «Со страхом Божіим и со верою приступете», ты з вшелякою пристойностю и великим набоженством чоло ку земли приклони, розмышляючи яко Збавитель наш хвалебне моцою бозства своего з мертвых встал и розмаите учеником своим указовался; и притомне правдиве под особою хлеба и вина будучого привитай тыми словы:

Молитва егда под'емлет іерей тело и кровь Христову и глаголет: «Со страхом Божіим и верою приступите».

Благословен грядый во имя Господне, Бог Господь и явися нам, Господь наш Іисус Христос, егоже пречистое тело и кровь зря ныне подносиму, верую яко то

ест самое пречистое тело его, и то ест самая животворящая кровь его. И тако веруяй и исповедуяй вопію: Видехом свет истинный, и прияхом Дух небесный, обретохом веру истинную, неразделимей святей Троици поклоняемся, та бо нас спасла ест.

А ґды священник, вернувшися до олтаря и положивши божественный келих на престоле, кадит трикрот, розмышляй припоминаючи собе невесты оные мироносицы, которые пришли рано до гробу з мастями дорогими. Ґды зась дискос з звездою и покровцами складаными показует, припомни собе знаки з мертвых встаня Панского показаныи святому Петрови, святому Іоаннові, и святым мироносицам, то ест простирадло и иншые хустки и звязки в гробе зоставленые. Зараз притом, ґды другій раз показуючи келих, а относячи Божественыи Тайны, идет да жертовника, где и впрод пред посвященiем были, розмышляй яко Пан з славою вступил до неба, откуль и зступил был для справованя збавеня нашего. И набожне мов тую молитву:

Молитва егда глаголет священник: «Всегда, ныне и присно и во веки веков». Вознесыйся на небеса Христе Боже наш, вознеси наш ум еже оставити телесная и земная и твоим последовати всегда повеленіем. Да исполнятся уста наша пенія ти Господи, яко сподобил еси их причаститися святым безсмертным и животворящим твоим тайнам, и нас соблюди во твоей святыни по вся дни поучатися правде твоей. Аллилуія.

(Канец будзе).

---

# Павал VI на Далёкім Ўсходзе

(27. XI. — 4. XII.)

Падарож багатая засягам прастору і працы: ня будзем успамінаць дэталяў яе, а толькі важнейшыя аспэкты.

Папа (73 гадоў веку) праехаў больш чым вокал зямлі — 38 тысяч міль на працягу 9-ці дзён! Цэлы час у напружанай працы, ў бязупынных пераменах клімату і часу, а да таго на пачатку — на Філіпінах — замах на ягонае жыцьцё. У падарожжы наведаў Пэрсію, Усходні Пакістан, дзе пабачыў месцы катастрофы ад паводкі ў часе тайфуну, Філіпіны, вастравы Самао (Паго-Паго), Аўстралію, Інданэзію, Гонконг і Цэйлён.

У працягу падарожы Папа меў 63 прамовы, асабліва датычна місыйнае акцыі Катал. Царквы на Усходзе. Апрача таго Папа браў удзел у двух канфэрэнцыях біскупаў Усходу-Азіяцкага і Аўстралійскага кантынэнту дый Акіяніі.

### Аснаўныя мэты падарожы

Паездка мела вылучна рэлігійны характар. Каталіцкая Царква асабліва цікавіцца і непакоіцца справамі гэтых найдалейшых краінаў, дзе скупляецца вялізная колькасьць людзтва. Папа, як галава Царквы, зьвярнуў увагу на патрэбу адзінства і любові між кіраўнікамі-біскупамі і лучнасьці іх з Рымам: гэтак Павал VI працаваў у духу сьвятых ап. Пятра і Паўла. Пабуджаў да рупнасьці на карысьць бедных, каб праводзілі адпаведныя рэформы, а ў справах місыйных, каб стараліся рыхтаваць больш мясцовага духавенства, бо толькі роднае дух. зможа рэальна пашыраць веру і ўплываць на абычаі. Казаў: «Ніхто ня зможа гаварыць да азіятаў, як самыя азіяты».

З вялікім сумам дасюль уважаецца, што да беларусаў каталікоў трэба гаварыць у касьцёлах па польску, а да праваслаўных — па расейску!..

У душпастырскім пытаньні Папа асаблівую ўвагу зьвярнуў на моладзь. На Філіпінах і ў Аўстраліі прамаўляў да моладзі і адпраўляў для іх спэцыяльныя набажэнствы. Пахваліў іх энтузыязм да новага, да будучыні, да справядлівасьці; аднак перасьцярог, каб ня былі самі сабе судзьдзямі і каб не плянавалі будучыні бяз Бога.

### Дыялёг з нехрысьціянамі

Апрача дыялёгу з хрысьціянамі — ў супольных малітвах (каталікі, мэтадысты, лютаране, праваслаўныя і інш.) і ў размовах з лідарамі, — Папа няраз зазначаў, што дзеіць толькі як пасланец Хрыста і прапаведнік Добрай Навіны — Эвангельля. А Хрыстос высылаў сваіх апосталаў ня толькі да аднаго народу — жыдоўскага, але і да ўсяго сьвету: «Ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх ...» (Матэй, 28, 19).

А Далёкі Усход — гэта будучыня Хрыстовае Царквы, бо там больш, чым палавіна чалавецтва, блізка 2 мільярды людзей! Кітай 800 мільёнаў, Індыя 500 м. Дык таму Папа выбраў Усход на сваю спэцыяльную місію, з думкай, каб прыблізіць Хрыста да галоўных народаў Азіі, як пэрсы, пакістанцы, інданэзы, кітайцы, гіндусы ... Няма сумніву, што ахвотна паехаў-бы ў Пэкін, каб бы-

ло магчыма. І ў сваіх прамовах на Філіпінах, у Інданэзіі, у Гонконгу Папа выясьняў, што Катал. Царква ня ёсьць для іх абыякавая. Казаў: «Царква прыносіць вам навуку Хрыста, не накідаючы, але ў самы прыязны спосаб: ня вылучае, ані памяншае вашых культурных і духовых вартасьцяў, якія становяць вашую дарагую спадчыну». Хрыстос і ягоная навука маюць Божую чароўнасьць і глыбока рэлігійны Усход можа гэта ацаніць. «Вашая вера і любоў, якая ажыўляе вашае штодзённае жыцьцё, можа зрабіць нагляднай і ўспрымальнай навуку Хрыста».

Перасьцярог народы Азіі перад матэр'ялізмам, а яшчэ больш перад ваюючым атэізмам. «Азія, ў якой нарадзіліся сусьветныя рэлігіі, не павінна паддацца бязбожніцтву. Мы молімся і вас заклікаем маліцца разам з намі, каб Божае Сьвятло і Любоў захавала вашыя народы ад такой вялікай небасьпекі.»

У Гонконгу, у «самай браме Кітаю», Папа сардэчна і горача прадставіў кітайскаму народу Госпада Ісуса Хрыста: «Вось — кажа — прыйшоў на Далёкі Усход першы раз у гісторыі ў нізкай маей асобе апостал Хрыста. І што ён вам скажа? Па што прыйшоў? Можна сказаць адным словам — Л ю б о ў . Хрыстос ёсьць Вучыцелям, Пастырам, Збавіцелем і для Кітаю».

Пры гэтым Павал VI аказаў у адносінах да Кітаю найбольш добрай волі і асьцярожнасьць. Гэта мела ўплыў на кітайскія ўлады, што пра візыту Папы на Ўсходзе яны зусім маўчалі і ў прэсе і ў радыё, хоць выступаюць вельмі рэзка супраць Захаду.

Буддысты, музульманы і інш. прадстаўнікі рэлігіяў добра ацанілі жаданьне Папы супрацаваць у сусьветных патрэбах, як супакой і помач бедным. Міла прынялі яго глыбокую пашану да іх рэлігіяў і культуры. Так штораз выразьней бачыцца супольная плятформа для дыялёгу Каталіцкае Царквы з іншымі рэлігіямі. Буддысты падаравалі Папе статуэтку Будды, а музульмане Каран.

Апостальства аб Хрысьце неадлучна зьвязана з дачаснымі патрэбамі сьвету. Валадарства Божае і штодзённы хлеб знаходзяцца побач сябе ў Гасподняй малітве «Ойча наш». Таму Папа і затрымаўся ў Пакістане, дзе пабачыў няшчасных — хворых і бяздомных — ахвяраў паводкі і перадаў сваю скромную ахвяру. І зрабіў там усё, каб заахвоціць усе дзяржавы сьвету да помачы Пакістану ў такой вялізарнай катастрофе. Дый заклікаў каталіцкія арганізацыі, каб памагалі няшчасным.

Вітаючы прэзыдэнта Пакістану, Папа сказаў: «Я прыйшоў да Цябе, як прыяцель і як брат, каб падзяліць твой цяжар і выявіць глыбокі спагад». Также пры сустрэчах з палітычнымі лідэрамі Павал VI выявіў глыбокі спагад для народаў ахопленых вайной в'етнамскай. Галоўнае заданьне: палажыць канец вайне і ўстанавіць трывалы супакой дый уладзіць разумны падзел багацьця!.. Бо, на жаль, багатыя ўсё больш багацеюць на шкоду бедных і лік гэтых павялічваецца!..

У прамове да прэзыдэнта Філіпінаў Папа казаў: «Мы ўпэўнены, што наша сустрэча прычыніцца — ў гэтым краі найбольш хрысьціянскім — да намаганьня на карысьць людзей, — у справе справядлівага падзелу багацтваў, каб падняць найбяднейшых.

У Аўстраліі Папа дамагаўся ад аўстралійскага народу і ўраду справядлівасьці ў адносінах да іншых расаў, а также да мясцовых адстаючых плямёнаў, каб давесьці іх да поўнага пазнаньня і стану нармальных народаў, каб паўстрымаць іх дэгенэрацыю і выміраньне. Галоўныя ідэалы: рэліг. свабода, братэрства, дабрабыт, парадак...

---

# Пошта а. Юстына

ПЫТАНЬЕ: 1) Што будзе з чалавекам, які быў ахрышчаны дый ня верыць у Бога, але жыве беззаганна, справядліва, любіць бліжніх і наагул вядзе сябе як найлепшы хрысьціянін?

АДКАЗ: У вашым пытаньні не хапае вельмі важных дадзеных, каб даць адзін адказ, дык адказы будуць розныя. Напр., ці ён быў павучаны аб Богу, ці можа ніколі ня чуў пра Бога?

Калі-бы так было, дык ён ёсьць Божае дзіця, як і кажны хрысьціянін. І Бог кіруе чалавекам праз ягонае **сумленьне** дый памагае быць добрым. А калі ваш чалавек — з помачай Божай — слухае Бога, дык ён тады ня розніцца ад добрага хрысьціяніна і заслужыць на вечнае шчасьце з Богам. Хрыстос казаў: «Шмат іх прыдзе з Усходу і Захаду і засядуць з Абрагамам, Ізаакам і Якубам у Валадарстве Божым».

Але, калі чалавек — ахрышчаны пазнаў ужо Бога, а пасьля страціў веру, дык ваш прыклад трэ' ўважаць за немагчымы! Бо, падумайце толькі: каб перастаць верыць у Бога, трэба страціць пазнаньне д а б р а і з л а і ацэнку дабра і любві. А гэта таму, што Бог ёсьць чыстае дабро і самая любоў. — Бо, скажыце, як такі чалавек могбы быць добрым і любіць бліжніх, як самога сябе? Каб адкінуць веру ў Бога, трэба перш быць непаслушным Богу, значыць, тут уваходзіць цяжкі грэх, які адбірае веру ў Бога. Таму Хрыстос і кажа: «Хто ня верыць, ужо асуджаны». І паясьняе: «Бо сьветласьць прышла на сьвет, а людзі ўзлюбілі больш цемру, чым сьветласьць», бо ўчынкі іх былі дрэнныя. Кажны, хто паступае дрэнна, ненавідзіць сьветласьці, каб іншыя не ўбачылі іхніх учынкаў...

Хрыстос, калі хацеў сказаць, што Ён ёсьць Богам, гаварыў: «Я ёсьць сьветласьць, якая прышла на сьвет. Хто ідзе за Мною, ня ходзіць у цемры». Яго мы называем: «Бог з Бога, сьветласьць з сьветласьці».

Усялякае дабро можа прыходзіць толькі ад Бога. Праўда, у практыцы цяжка сказаць, хто ёсьць сапраўды добры. Аднак-жа, ведама, што, каб быць добрым, трэба слухаць Бога. А як будзе слухаць добрага Бога, хто ня ведае, што такое дабро ці ня хоча прызнаваць дабра. Часам людзі думаюць або й гавораць, што яны ня вераць... Але той, хто сапраўды любіць бліжніх і любіць дабро і імкнецца да дабра, дык такі пазнае і будзе любіць Бога.

Сапраўдныя бязбожнікі-атэісты ня любяць людзей дый становяцца апосталамі зла і людзкой крыўды ці любяць толькі сваіх партыйных, беспартыйных талеруюць, а працiўнікаў ненавідзяць, прычыняючы ім згубу. (Гэта — **«эвангельле»** Гітлера і Сталіна). —

А Хрыстос заклікае і дае сілу любіць нават ворагаў. А скуль возьме сілу любіць ворагаў той, хто ня мае лучнасьці з Хрыстом праз веру? Таму такі чалавек ня можа быць, «як найлепшы хрысьціянін»!

ПЫТАНЬНЕ II: Што будзе з людзьмі, якія ня ведалі пра адзінага Бога, а жылі згодна з Божымі прыказаньнямі?

АДКАЗ: З папярэдняга можаце зразумець, што й гэтыя атрымаюць вечнае шчасьце.

А чаму трэба пазнаць Бога? Таму, каб даведацца, чаго Ён ад нас жадае і каб атрымаць ад Яго потрэбную помач. Калі-ж хто выпаўняе Божую волю, гэта значыць, што Бог ужо яму памагае. Такую лучнасьць з Богам можна ўжо назваць рэлігіяй. Калі хто ня можа пазнаць Бога, то нават і тады Бог мае спосабы, каб паказаць чалавеку сваю волю. Напрыклад, праз сумленьне, якое ў нас ёсьць голасам Бога, Бог, які хоча ашчасьлівіць усіх людзей, памагае і няпрошаны, як добры бацька свайму дзіцяці, абы толькі чалавек не адкідаў Божае помачы! Тады чалавек і жыве згодна з Божымі загадамі.

Так людзі пазнавалі Бога ў самоце, на пустэльнях ці нават жывучы паміж атэістаў і бязбожнікаў. Нават самі агітатары дзівяцца і пішуць у часапісе бязбожным «Навука і рэлігія», што маладыя людзі, дзеці атэістаў, бяз уплыву веручых, нярэдка даходзяць да пазнаньня патрэбы Бога і шукаюць аказіі, каб пазнаць веру і прачытаць Эвангельле!..

---

# Ўладыка Чэслаў у Чыкаго

Вестка аб прыезьдзе Біскупа разьляцелася маланкай па бел. калёніі ў Чыкаго. Хаця прыезд выпаў на будні дзень — пятніцу 11/IX, сабралася на лётнішчы Огар ладная група беларусаў у нацыянальнай вопратцы і амэрыканцаў парахвіі Хрыста Збавіцеля. Дзень быў цёплы, сонечны і такі самы быў гумар прасутных.

Чакалі пакуль Уладыка заладзіў фармальнасьці. «Вось ідзе Ўладыка!» Усе вітаюцца, а маладыя Янка Рамук і Нуні Бэйкар вітаючы, уручаюць прыгожы букет у нацыянальным колеры. Плякат: «Вітаем, Ўладыка», трыманы Ірэнкай Рамук і Нінай Байкар, прыцягваў увагу і людзі пыталіся, што за важная асоба прыехала ў Чыкаго?

Усе цікавіліся, як прайшло падарожжа і што чуваць у беларусаў у Эўропе?

У рамах урачыстасьці 13/IX ў нядзелю прадбачана пасьвячэньне Кардыналам Коді, Арцыб. Чыкаго, царкоўнае салі і прыдбанага будынку побач царквы. А гадз. 4-ай урачыстая Літургія адслужаная Біскупам Чэславам у саслуж. з айцамі Тарасэвічамі. Народу поўна, настрой вельмі паважны.

Працэсія з удзелам рыцараў Калюмба ў уніформах са шпадамі у руках скіравалася ў салю, дзе кардынал выканаў акт пасьвячэньня. Адтуль працэсія кіруецца да сьвятыні, дзе была пасьвячана над'уходная мазаіка. Пасьля Біскуп Чэслаў прывітаў кардынала з традыцыйным хлебам-соллю і ўвёў яго ў царкву, на што кард. сказаў, што ўжо знаходзіцца пад «юрысдыкцыяй Біскупа Сіповіча».

Хор і квартэт прыгожа выканалі літургічныя сьпевы пад кіраўніцтвам а. Я. Сыру. Прынагодную казань сказаў Біскуп Сіповіч па ангельску і па беларуску, выясьняючы дзейнасьць беларускай царквы ў Чыкаго. Тут у 1967 г. была ўведзена белар. мова ў літургію а. Уладзімерам Тарасэвічам. Тут адбываліся розныя канфэрэнцыі і зьезды. У канцы Уладыка Чэслаў заклікаў, каб і далей новая саля служыла тым-жа высокім мэтам — пашырэньню беларускае сьведамасьці на нацыянальна-рэлігійнай ніве.

Наступна Кард. Коді дзякаваў за малітвы за Яго і радаваўся, што гэта была першая нагода ў ягоным жыцьці, дзе толькі разоў паміналі ягонае імя ў малітвах! І падчыркнуў, што заслугай у пашырэньні парахвіі ёсьць нястомная праца а. Ул. Тарасэвіча. Такжа падкрэсьліў духовае павадырства Біскупа Сіповіча, які адведвае бел.

асяродкі, нясучы маральную падтрымку суродзічам.

Пасьля адбыўся банкет у салі Гардэн Менар, на які зыйшлося каля 300 чалавек. Беларуская парахвія ахвяравала Кардыналу абраз Хрыста-Збавіцеля і другі абраз — Божае Маці — ад сьвятароў Усходняга Абраду. Абразы уручылі: Ірэна Рамук, Діянэ Граффія і Густаў Раптіс, а таксама Вальтэр і Марыянна Жызьнеўскія і Ніна Байкар у нацыянальных вопратках.

Кардынал быў вельмі ўсхваляваны, прыймаючы гэтыя, як сам казаў, так дарагія ягонаму сэрцу падаркі.

Кардынал, хоць і сьпяшаўся, ўсё-ж прасіў выканаць пару нацыянальных танцаў. Прытым сп-ня Вера Рамук адсьпявала: «Чаму-ж мне ня пець?», «Лета», а сп-ня Градэ-Куліковіч — песьні «Васількі» і «Ў цёмным лесе».

Пасьля было нямала прамоваў. Ад беларусаў сп. Вацлаў Пануцэвіч, ад амэрыканцаў — Франк Гацолё, айцы Тарасэвічы, ад апацтва сьв. Пракопа — Паскаль Гонар ды інш. А. Уладзімер даў справаздачу з царкоўнае дзейнасьці і паіфармаваў пра пляны на будычыню.

Былі выкананыя вакальна-музычныя творы, Нэррыкам Янчэўскім і танцавальнай групай. Асабліва цікавыя былі выступы маладых Руні Байкар і Долёрыс Айго з балетнымі нумарамі.

На апошку прамовіў Біскуп Чэслаў: дзякаваў за запросіны і — кажа — пабачыўся з сваімі суродзічамі, пазнаёміўся з іхняй працай і з штодзённай «шарваркай» у арганізацыях. Заклікаў усіх да дружнай і ахвярнай працы для нашага народу ў нацыянальнай і рэлігійнай справе. А дзеці — Ліля Жызьнеўская і Янка Рамук паднесьлі падарак ад парахвіі — камплект да пісаньня, белар. ручнік і інш.

Банкет закончыўся супольнай малітвай і багаславенствам Уладыкі. У часе свайго пабыту Біскуп Часлаў адведаў белар. сем'і, меў інтэрвью ў радыё з Нікам Жызьнеўскім, кіраўніком белар. радыё перадачаў «Нёман» ды ў амэрык. праграме Зыгмунта Саковіча.

Вечарам 19/X у царк. салі адбылася зборка белар. парахвіянаў з дастойным Гасьцём. Быў паказаны фільм «Беларуская сюіта». Пасьля Біскуп прачытаў даклад аб гісторыі лацінскага абраду на Беларусі. Было шмат пытаньняў і прайшла гарачая дыскусія на тэму дзейнасьці і арганізацыі бел. моладзі. А ў нядзелю, на другі дзень, Біскуп Чэслаў разважаў пункты, што праходзілі праз дыскусію і заклікаў, каб спакойна ды рачова падыходзілі да ўсіх арганізацыйна-грамадзкіх праблемаў. У адзінстве, згодзе, зразуменьні, адданасьці ды ахвярнасьці мае праходзіць наш шлях, каб зьдзейсьніць нашыя нацыянальна-грамадзкія-рэлігійныя ідэалы.

Дня 26 верасьня Біскуп Сіповіч пакінуў Чыкаго, адлятаючы ў Нью Ёрк. Усе жадалі яму памыснай падарожы па беларускіх асяродках Амэрыкі і Канады ды шчасьлівага павароту ў Лёндан!. . . .

**Др. Віт. Рамук.**

---

# Канцэрт у памяць праф. М. Куліковіча ў Чыкаго

Пасьля натужлівых стараньняў удалося зладзіць канцэрт дня 28 лістапада 1970. Старшынёй камітэту ў справе наладжаньня канцэрту была сп-ня Вера Рамук. У газ. «Беларус» у ліпні быў заклік да грамадзтва прыняць удзел у канцэрце. Шматлікія асяродкі адклікнуліся на гэта.

Мэта канцэрту: паказаць найлепшыя шэдэўры музыкальнай творчасьці кампазытара і пазнаёміць нашых суседзяў наконт апрычонасьці і арыгінальнасьці белар. музыкі. Найбольшая заслуга праф. Куліковіча — гэта кампазыцыя опэрнай музыкі на лібрэтто паэткі Наталіі Арсеньневай, як «Кацярына», «Князь Чарадзей Полацкі» і «Лясное Возера» ды музыкі да апэрэткі «У Вырай», а таксамо шматлікіх песьняў і іншых музычных твораў.

Канцэрт адбыўся ў салі Латыскага Грамадзкага Цэнтру. Сцэна была дэкаравана прыгожымі белар. тканымі ручнікамі і дзяружкай, на якой віднеўся партрэт сьв. пам. праф. Куліковіча, а белар. і амэрыканскі сьцягі і пальмы дадавалі павагі ўрачыстасьці.

Канцэрт пачаўся прамовай сп-ні Рамук у беларускай і анг. мове: яна прывітала гасьцей і расказала аб музыкальнай дзейнасьці праф. Куліковіча.

Сп. Юрка Мазура па белар. і па ангельску зьмястоўна абрысаваў спадчыну праф. Куліковіча, які праз усё жыцьцё стараўся вярнуць чысьціню белар. мэлёдыаў — выэлімінаваць расейскія ўплывы і набегі на нашую музыку. Мазура ставіў кампазытара Куліковіча на ўзроўні кампазытараў сусьветнай славы, як Чайкоўскі і інш.

Трэба азначыць, што праграма канцэрту была ўдала распрацавана ды падбор музычных твораў даў наглядны паказ музычнае творчасьці Куліковіча. Удзельнікамі гэтае праграмы былі былыя вучні праф. К. ды супрацоўнікі з іншых нацыя-

..альных групаў у Чыкаго. А таксама госьці-ўдзельнікі з Дэтроіd і з Канады.

Музычная частка пачалася ўдалым адыграньнем «Беларускай Фантазіі № 1» на фартапіяне сп-шняй Ірэнай Мароз. А сп-ня Вера Рамук выканала дзьве цудоўныя песьні: «Не забуду я Алеся» і «Лес», якія сваім лірызмам у 1-ай песьні ды глыбокім драматызмам і містыцызмам у 2-ой песьні хвалявалі сэрцы слухачоў.

Было вялікай прыемнасьцю бачыць сярод гасьцей паэтку Наталію Арсеньневу, якая была блізкай супрацоўніцай праф. Куліковіча да апошняе хвіліны ягонага жыцьця і якой вялікія заслугі добра ведамы беларускаму грамадзтву. Не зважаючы на злом рукі і на далёкі дыстанс, паэтка прыбыла, каб ушанаваць памяць кампазытара. Як доказ удзячнасьці, ёй быў уручаны букет кветак ад бел. грамадзтва ў Чыкаго 8-мі гадовай Ліляй Жызьнеўскай.

Сп-ня Вера Артон, ведамая сьпявачка з гор. Дэтроіт, выканала дзьве песьні: «Я іду дарогай» і «Ня першы раз». Ейны мэлёдыйны голас цудоўна адлюстраваў малюнкі белар. краявіду, пераносячы слухачоў на белар. палеткі хвалюючага жыта з блакітнымі васількамі.

На спэцыяльную ўвагу заслужыў выступ ведамага кампазытара Васіля Шуцьця, украінца з Чыкаго. Ён адыграў на піяніне свой музычны твор «Суд над казакам», прысьвячаючы яго памяці праф. Куліковіча, якога знаў у працягу доўгіх гадоў. Гэты твор выразіў глыбокі драматызм-змаганьне казака за сваю незалежнасьць.

Яшчэ выступалі сп-ні Вера Артон і Вера Сажыч з Дэтроіт з песьнямі «О, Беларусь, мая шыпшына», «Песьня мая, песьня» і «Я ад вас далёка». Трэба тут зазначыць, што сп-ня Вера Сажыч добра ведамая белар. грамадзтву з сваіх папярэдніх выступленьняў у дуэтных партыях на розных белар. імпрэзах. Усе тры ўспомненыя песьні выклікалі гучныя воплескі.

Сп-ня Надзея Градэ-Куліковіч выканала дзьве песьні: «Васількі» і «Пакахай», захопліваючы слухачоў сваім голасам.

Атракцыяй вечара было выступленьне Стафана Віціка, опэрнага тэнара польскага паходжаньня, які выканаў наступныя песьні: «Гусі», «Па дзяўчыне любай». — Трэба зазначыць, што Віцік, здавалася, перавысіў сябе — сваёй дыкцыяй, інтэрпрэтацыяй, дынамізмам і мілагучнасьцяй, ставячы сябе ў рады высока кваліфікованых прафэсыяналаў! Бурныя воплескі і клічы на «біс» змусілі яго выступіць звыш праграмы.

Малады, былы вучань Куліковіча, Гэнрык Янчэўскі, выступіў з «Фантазіяй на бел. тэмы» на фартэпіяне, выконваючы ўдала і па майстэрску.

На заканчэньне канцэртнай праграмы выступілі сп-ня Н. Градэ-Куліковіч і сп. Ст. Віцік з дуэтам з опэры «Князь Чарадзей Полацкі». І вельмі прыемна было пачуць хоць невялічкі фрагмэнт з беларускае опэры! Шкада, што гэтая опэра ня можа быць выканана ўпоўні на эміграцыі з прычыны матар'яльнай нястачы, а на бацькаўшчыне дзеля нацыянальна-ідэалягічнага зьместу!..

Акампаньятарам на фартэпіяне быў на ўсіх нумарох праграмы Станіслаў Ноцэк. Хаця ён польскага паходжаньня, але вельмі зацікавіўся і палюбіў мэлядыйнасьць нашых песьняў. Ён бескарысна аддаваў свой час, прыяжджаючы на пробы.

Звыш праграмы выступала аркестра сп. Лішчонка з Ашавы (з Канады), выконваючы тры нумары кампазыцыі праф. Куліковіча і два нумары самога кіраўніка аркестры. Гэтыя творы былі вясёлага жанру і ўсім вельмі спадабаліся.

Гімнам пад гукі аркестры сп. Лішчонка закончыўся канцэрт у памяць праф. Куліковіча. Яшчэ позна ўначы працягваліся гутаркі пры кубку кавы з прадстаўнікамі белар. асяродкаў з Клівленду, Дэтроіту і Канады. Сярод прысутных трэ' успомніць Старшыню праф. Жук-Грышкевіча і ягоную жонку Раісу, пісьменніка Кастуся Акулу, др. Сажыча, інж. Бруцкага, інж. Калошу, інж. Станкевіча, сп. Дунца і сп. Прускага.

Водгукі аб канцэрце былі надта прыхільныя з боку прысутных і музыкаведаў іншых нацыяў. Пра канцэрт шырока пісалі англамоўныя газэты.

**Др. Віт. Рамук**

---

## *З царкоўнага жыцьця*

ВАТЫКАН: 1) З нагоды Каляд Папа прамаўляў да цэлага сьвету, багаславіў яго і горад Рым — («Урбі эт Орбі» — і ў прамове разгарнуў думку, што Хрыстос ёсьць неабходны для цяперашняга сьвету. «Хрыстос ёсьць Праўдай, якой сьвет шукаў і Хрыстос ёсьць Жыцьцём, якога сьвет патрабуе... Цяперашні сьвет апушчаны ў самалюбства, у ненавісьць і закалоты. Сапраўды — гэта парадокс, што хрысьціянства прапаведвае Хрыста, як слабое і ўбогае дзіцятка (у Бэтлееме). А пасьля Хрыста, пагарджанага на крыжы, прапаведуе чалавеку, які верыць у дабрабыт і матар'яльную сілу.

Аднак, не зважаючы на такі парадокс, усё-ж трэба прапаведываць Хрыста, бо сьвет Яго патрабуе! Паміма сваей магутнай тэхнікі, сьвет зьяўляецца зусім бездапаможным і ня можа знайсьці адказу на пытаньне, які ёсьць **сэнс**

людзкога **жыцьця** і сьвет ня можа сябе вызваліць з маральнае нястачы, якая яго нішчыць. «Адзін толькі Хрыстос ёсьць Збавіцелям ад зла». І ў школе Хрыста «людзі пазнаюць праўду і вучацца глядзець на другога чалавека не як на ворага, але як на брата».

2) У прамове да Кардыналаў перад Калядамі Павал VI прадставіў стан Царквы. Найперш падзяліўся сваімі ўражаньнямі з падарожжа на Далёкі Ўсход. Сьцьвердзіў з вялікім здаваленьнем, што Канфэрэнцыі Біскупаў, уведзеныя апошнім Саборам, зусім пасьпяхова рашаюць няраз цяжкія і спэцыяльныя праблемы ў жыцьці царкоўным на самых далёкіх кантынэнтах. Пры гэтым яны стараюцца ўтрымаць лучнасьць з Галавой Царквы і працаваць калегіяльна.

Пасьля Папа перайшоў да праблемаў, якія яго найбольш непакояць і вымагаюць супрацы кардыналаў і біскупаў.

Першай такой справай ёсьць нездаровы **крытыцызм,** які выявіўся ў старых хрысьціянскіх краях. Гэты крытыцызм нарушае асноўныя праўды ў Царкве, устаноўленыя Самым Хрыстом і аслабляе веру, асабліва ў маладзі і спрычыняе замяшаньне.

Другая труднасьць: як схіліць багацейшыя хрысьціянскія народы, каб памагалі запозьненым і бедным у іх прагрэсе. Такая помач ня ёсьць справа чыста дачасная, але — гэта абавязак хрысьціянскае веры і любові. І з гэтым зьвязана справа супакою на сьвеце, справядлівасьці і Эвангелля. Праз практыку хрысьціянскай любові будзе паглыбляцца і вера ў хрысьціянскіх народах і лягчэй будзе пашырацца ў няхрысьціяных. — Прытым Папа жаліўся на ўвядзеньне разводаў у Італіі, якія спрычыняць немалую шкоду італьянскаму народу.

3) На пачатку лістапада 1970 быў у Італіі і ў Ватыкане з візытам імпэратар Этыёпіі Гайле Сэлясcі. Гэта першы візыт пасьля 1935 г., калі Муссоліні скінуў яго з пасаду. Павал VI падзякаваў яму за працу на рэч супакою на сьвеце, асабліва ў Афрыцы і за прыхільнасьць да Катал. Царквы. Выказаў яму шчырае прызнаньне за «глыбокае зразуменьне ролі маральнай і духовай вартасьці ў сьвеце, у якім брутальныя сілы хацелі-б усё праглынуць».

*

## ПЕРАКЛАД ЛІТУРГІЧНЫХ ТЭКСТАЎ

Апостальскі Пасад выдаў ІНСТРУКЦЫЮ (29. X. 1970), у якой вымагае, каб — па думцы Ватыканскага Сабору — людзі маліліся ў сваіх народных мовах. Нельга рабіць перакладаў пасьешна і недакладна. І належыць радзіцца ня толькі багасловаў і літургістаў, але і знаўцаў мовы лацінскай і народнай, каб літургічныя тэксты былі творам мастацкай народнай мовы. А ўсялякія зьмены ў Літургіі павінны быць паддаваны зацьверджаньню Апостальскага Пасаду.

## «МЕСЦА ЗА СТАЛОМ І ХЛЕБ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ»

16. XI. 1970 ФАО (Міжнародная Арганізацыя для Харчоў і Земляробства) — сьвяткавала юбілей 25-годзьдзя існаваньня — у Рыме. На гэтым быў прысутны Павал VI. У сваей прамове выявіў шчырае прызнаньне гэтай Арганізацыі за яе заслугі ў помачы бедным народам і жадаў ім далейшай плённай працы. Пры гэтым падаваў свае жаданьні. — Найперш крытыкаваў палітыку супраць народзінаў, якую праводзяць сродкамі нягоднымі чалавека. Паставіў ясны прынцып: «Не памяншаць месцаў за сталом, але павялічваць запасы хлеба!» Трэба тварыць такія ўмовы, якія далі-б людзям магчымасьць жыць згодна з іх натурай.

Папа зьвярнуў увагу на магчымасьць выкарыстаньня багацьцяў зямлі і на патрэбу абароны грунтаў, лясоў, вады і інш., перад атручэньнем праз індустрыю. Замест выкідаць грошы на збраеньне, трэба выдаваць іх на патрэбу людзтва, на разьвіцьцё запозьненых краёў, каб яны самі сталі прадуцэнтамі харчовых сродкаў.

Зьвярнуў Папа таксама ўвагу на вялікія рэзэрвы людзкой сілы. «Калі нічога нельга зрабіць без чалавека, дык з ім усё магчыма пачынаць і ўсяго даканаць. І праўда тое, што дух і сэрца першыя бяруць перамогу».

Гэтыя рэзэрвы Папа бачыць у моладзі. «Моладзь мае адыграць вялікую ролю. У багатых краях моладзь нудзіцца, бо не мае ідэалу годнага яе аспірацыяў, які мог-бы змабілізаваць ейныя сілы. А ў бедных краях моладзь знаходзіцца ў апатыі, бо не мае адпаведнай веды і прафэсыянальнай падрыхтоўкі. І няма сумніву, што спалучэньне гэтых маладых сілаў маглобы зьмяніць будучыню, калі-б мы, старэйшыя, памаглі ёй прыгатавацца да гэтае задачы.

*

## МІНІСТАР ГРАМЫКА Ў ПАПЫ

12 лістапада 1970. Візыт трываў 80 мінут і быў прыватны, дык нельга было даваць ніякага камунікату, але Дырэктар Ватыканскай Прэсы выявіў, што была мова пра раззбраеньне, пра вайну на Блізкім і Далёкім Ўсходзе. Таксама Папа скарыстаў з нагоды, каб закрануць справу сытуацыі Катал. Царквы ў Сав. Саюзе. Гэта была 3-яя сустрэча мін. Грамыкі з Паўлам VI

*

## ДЭ ГОЛЬ ПАМЁР ЯК ДОБРЫ ХРЫСЬЦІЯНІН

На скромных паховінах генэрала Дэ Голя, канонік, які адпраўляў набажэнства, сказаў, што добра знаў генэрала. «Ён ніколі не рабіў сакрэту з сваей веры: верна прыходзіў у сьвятыню і меў у ёй сталае месца. Быў пакорным чалавекам і добрым хрысьціянінам і памёр па хрысьціянску».

## ЦІ МАГЧЫМЫ СУПАКОЙ НА СЬВЕЦЕ?

У прамове з нагоды Дня Сусьветнага Супакою 1-га студзеня Папа паддаў аналізе сучасны стан жыцьця на сьвеце. Ці ёсьць якая надзея на супакой? На вялікі жаль, сталася горш, чым людзі спадзяваліся па вайне! На сьвеце трымаецца супакой, абапёрты толькі «на раўнавазе сілы» . . . Перагонкі ў ва ўзбраеньні набіраюць усё большага размаху і ўсё больш прыгнятае людзей кошт узбраеньня, а таксама страх і пагроза сусьветнага канфлікту. Там і сям разгараюцца і камплікуюцца вогнішчы вайны. І ўсё часьцей ужываецца брутальных сродкаў, як гвалту, напасьці і забойстваў . . .

Але-ж ці няма ясных праменьняў надзеі на супакой? Так, ёсьць! Адначасна штораз больш узмацняюцца. праявы на карысьць супакою: да іх належыць і такі факт, што кажны чалавек ёсьць сьведамы неабходнасьці супакою, а вайна — страшэнны абсурд! Штораз больш узьнікаюць міжнародныя сувязі, якія лучаць людзей і ствараюць між імі дачыненьні. Можна сказаць, што ў цяперашнім сьвеце фармуецца нейкае згуртаваньне. Творыцца лучнасьць між людзьмі ў галіне культуры, рэлігіі, навукі, спорту, эканоміі і інш. І ў сувязі з гэтым паўстаюць міжнародныя інстытуцыі.

Усё гэта зьбліжае людзей і народы, памагае адкрываць між рознымі людзьмі супольнае і разьвівае ўнівэрсальнае братэрства. Так кладзецца фундамант коэгзыстэнцыі і любові. Пацяшаючай зьявай ёсьць рэзалюцыя ААН, што «кажны чалавек родзіцца вольны і роўны ў годнасьці і праве».

Гэтыя пацяшаючыя праявы — кажа Папа — трэба падтрымліваць і разьвіваць, а новае пакаленьне выхоўваць у духу братэрства.

*

У Бразыліі ўрад судзіць 7 манахаў-дамініканцаў за акцыю супраць дзяржавы, а сапраўды яны падтрымлівалі рух, які дамагаецца гаспадарчай рэформы. Урад ня дбае або чуецца бездапаможным, каб увесьці такія рэформы для паправы долі бедных і пакрыўджаных.

*

## АБМЕЖАНЫ ВЕК КАРДЫНАЛАЎ

Дакрэтам з дня 21 лістапада Папа пастанавіў, каб кардыналы, якія кончаць 80 гадоў не бралі ўдзелу ў важных функцыях Царквы, асабліва ў выбарах папаў. А з скончаньнем 75 г. каб зракаліся з пасадаў у Курыі. Галоўная думка дакрэту ёсьць тая, каб самыя важныя справы ў Царкве выконвалі людзі ў поўні адказнасьці. А цяпер з ліку 127 кардыналаў адпадуць 26. Некаторыя з іх лічаць сябе пакрыўджанымі, але пратэсту не падняў ніхто! Такая неспадзяваная навіна выклікала вялікую цікавасьць і зьдзіўленьне, аднак агулам лічыцца, што дакрэт быў рацыянальны.

*

## СТАЛЫ ДЫЯКАНАТ У ІТАЛІІ

Біскупы згадзіліся (214 супраць 16) увесьці ў Італіі сталы дыяканат- дыяканы павінны прайсьці курс навукі і могуць быць жанатыя або нежанатыя. Будуць і далей спаўняць свае сьвецкія абавязкі, а ў сьвятынях — служыць часткова паводле патрэбы.

*

## РАЗВОДЫ Ў ІТАЛІІ

Калі Папа быў у падарожжы на Далёкі Ўсход, італьянскі парлямант правёў права разводаў. Папа вельмі гэтаму пярэчыў, пратэставаў і спасылаўся на факт, што ў Італіі найбольш каталікі і яны ня могуць у сумленьні прыняць закон, які пярэчыць Божаму і царкоўнаму праву. Біскупы вядуць моцную акцыю, каб каталікі не карысталі з такога закону.

*

## МЯШАНЫЯ СУЖЭНСТВЫ Ў АМЭРЫЦЫ

Кажны Біскуп можа пазваляць — у паважных выпадках — каб шлюб адбываўся у некатал. сьвятынях; а нават у сынагогах! а духоўныя іншых рэлігіяў могуць далучацца ў касьцёлах да малітваў сьвятара каталіцкага. А гэта дзеля таго, каб забясьпечыць веру каталіцкую і не парушаць свабоды некаталіцкай.

*

## ІНТЭРВЭНЦЫЯ Ў СПРАВЕ ЗАСУДЖАНЫХ

Павал VI заступаўся перад урадам ген. Франко ў Гішпаніі ў справе засуджаных на сьмерць 6-ці баскаў, просячы для іх ласкі. Як ведама, Франко — пад уплывам апініі сьвету — зьмяніў пастанову суду на даўгалетнюю вязьніцу. — Падобна таксама Папа заступаўся за 2-х жыдоў засуджаных на сьмерць у Сав. Саюзе за змову прыхапіць самалёт у лёце. Дыпляматычных зносінаў Ватыкану з Саюзам няма, дык Папа зрабіў гэта пры пасрэдніцтве Італьянскага ўраду. Як вядома, жыдоў звольнілі ад кары сьмерці.

Баскаў баранілі і гішпанскія біскупы.

УВАГА РЭД.: А чаму беларусаў не бараніў ніхто, нігдзе і ніколі, як іх прасьледаваў урад царскі і польскі, дый калі іх нішчыў урад гітлероўскі і сталінскі? . .

## З беларускага жыцьця

### УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў ЛЁНДАНЕ

У нядзелю 29 лістапада 1970 г. Галўная Управа Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ладзіла сьвяткаваньне пяцідзесятых угодкаў Слуцкага Паўстаньня. Сьвяткаваньне адбылося ў залі Школы сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане. Было прысутных многа гасьцей — беларусаў і чужынцаў.

*

### БЕЛАРУСКІ ФІЛЬМ

У панядзелак 30 лістапада вучні Школы сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане і некаторыя запрошаныя госьці мелі нагоду пабачыць дакумантальны каляровы фільм «Беларуская сюіта», выпушчаны студыяй «Беларусьфільм» у 1966 г. (аўтар сцэнарыя — Г. Колас). Фільм мае на мэце пазнаёміць гледачоў з разьвіцьцём прафэсыянальнага і самадзейнага мастацтва на Беларусі ў сяньняшні дзень. Зроблены фільм з вялікім мастацкім смакам, хоць у пачатку сцэны зьмяняюцца за хутка. У выкананьні многіх танцаў адчуваецца расейскі уплыў.

*

### КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У чацьвер 17 сьнежня сп. Г. Пікарда, сакратар Ангельска-беларускага Таварыства, прачытаў лекцыю на тэму: «Тэксты і напевы падобных Супрасьльскага Ірмалогія 1601г.». Гэта была першая лекцыя пятага курсу беларусаведы, наладжанага Ангельска-беларускім Таварыствам у Лёндане. У праграме прадбачацца яшчэ наступныя лекцыі: 9 лютага: «Помнікі літаратуры беларускіх татар арабскім пісьмом» (А. Надсон); 9 сакавіка: «Альгерд Абуховіч» (А. МакМільлін); 20 красавіка: «Пытанне мовы ў Каталіцкай Царкве на Беларусі ў другой палове XIX стаг.» (Ул. Ч. Сіповіч); 18 траўня: «Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI стаг.» (Дж. Дынглей); 1 чэрвеня: «Суды абычаёвага права на Беларусі, іх склад, юрысдыкцыя і правілы» (Г. Пікарда).

Лекцыі, у ангельскай мове, адбываюцца ў памешканьні Society of Antiquaries of London, Burlington House, Piccadilly,London W. 1.

Пачатак у гадз. 6.30 вечарам.

*

КЛЮШЧАНЫ — ВІЛЕНШЧЫНА: Атрымана сумная вестка: Дня 24 лістапада 1970 памёр інжынер АДОЛЬФ КЛІМОВІЧ, 70 гадоў. Пахаваны ў сваей парахвіі на магільніку ў Клюшчанах. — Перад вайной быў вельмі дзейным працаўніком у жыцьці грамадзкім і касьцельным у Вільні. Быў блізкім супрацоўнікам Кс. Адама Станкевіча ў рэдакцыі «Хрысьціянскае Думкі» і наагул у выдавацтве. — Калі-бы хто жадаў паведаміць рэдакцыі свае ўспаміны аб сьв. памяці А. Клімовічу, будзем вельмі ўдзячны. — Калі перад вайной былі забароненыя ў Вільні беларускія газэты, А. Клімовіч рэдагаваў «Ведамасьці Беларускія» па польску.

## З нашае мінуўшчыны

Патрэбу карыстаньня роднай мовай у Касьцеле разумела няраз тагды такжа і вышэйшае каталіцкае духавенства. Так, напрыклад, калі пад канец XIX ст. барадзьба царскіх урадаў з польскай мовай па касьцёлах дужа завастрылася, Магілёўскі каталіцкі арцыбіскуп запрапанаваў ураду згадзіцца завесьці ў Касьцёл у беларускіх парахвіях, замест расейскай, мову беларускую, мову родную народу. З прычыны гэтай прапановы пачалася перапіска між урадам і Апостальскай Сталіцай. У выніку гэтай перапіскі папескі сэкрэтар кардынал Рамполля, ад імя папежа Лявона XIII, паведаміў арцыбіскупа (ужо Казлоўскага), што Апостальская Сталіца дае яму права дазволіць карыстацца ў казаньнях мовай беларускай там, дзе карыстаецца гэтай мовай народ. Дакумэнт гэты падпісаны 8. V. 1897 г. за № 37,522.

Кс. Адам Станкевіч, Родная мова у сьвятынях, Вільня 1929, бач. 66.

### АРЦЫБІСКУП АЛЬБІН СЫМОН АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ Ў СЬВЯТЫНЯХ.

. . . Расейскі урад, каб асягнуць сваю мэту: адпалячаньне Каталіцкага Касьцёла, парушаў справу аб увядзеньні ў сьвятынях беларускай мовы замест усёўладнай расейскай і польскай.

Аб гэтым вяліся перагаворы з надзвычайным паслом Апостальскага Пасаду А. Аглііярдi,[1] калі

1 Антон Аглііярдi нар. 1832 г., быў Нунціям у Баварыі і Аўстрыі. 22 чэрвеня 1896 г. стаў кардыналам, памёр у Рыме 19 сакавіка 1915 г.

той прабываў у Маскве з нагоды каранацыі імпэратара Мікалая II.[2]

Ніхто не запярэчыць факту, што ў менскай дыяцэзіі простыя людзі[3] каталікі гутараць сваей мовай, там распаўсюджанай, якая займае месца пасярэдзіне між польскай і расейскай.

Гэты просты народ перавысшае лікам шляхту, мяшчан і г. зв. сярэднюю клясу, якая ўжывае польскую мову, але большую яе частку не разумее, а таксама не разумее польскіх катахізмаў і казаньняў.

Таму некаторыя сьвятары душпастыры пасталіся выдаць у дыялекце народу[4] катахізм[5] і некаторыя сьвятыя песьні[6] і выдалі-б іх больш, каб не стаяла на перашкодзе забарона ўраду друкаваць кніжкі на распаўсюджаных рускіх дыялектах, а гэта дзеля таго, каб ня было перашкодаў у пашырэньні ўсеўладнай расейскай мовы.

Аднак некаторыя сьвятары паўводзілі ў сваіх касьцёлах навучаньне катахізму ў народнай мове і гэта шчыра было прынята людзьмі з вялікай для іх карысьцю.

...Бяда толькі ў тым, што мала было такіх сьвятароў, а сяньня ёсьць іх яшчэ менш, якія-б ведалі гэту народную мову, а пры нястачы якіхколечы літаратурных дапаможнікаў, граматык і слоўнікаў, яе можна ўсвоіць толькі прабываючы даўжэйшы час з людзьмі і праз частыя зносіны з імі.

...Таму на маю думку заснаваньне катэдры беларускай мовы ў магілеўскай сэмінарыі[7] ёсьць справай неабходнай і канечнай і гэта патрэбна перадусім дзеля ўвядзеньня рэлігійнага навучаньня ў мове народам ужыванай. Таго сяньня дамагаецца павага найвышэйшай справы, а ёй зьяўляецца патрэба аб'ясьняць тайны і праўды веры ў мове, якая ня мае ніякіх літаратурных дапаможнікаў, Сьв. Пісьма ці нават заапрабаванага катахізму і т. п.

На месца францускай і нямецкай моваў, якімі дарэмна мучаць студэнтаў у ва ўспомненай вышэй сэмінарыі, трэба было-б вучыцца моваў беларускай і лівонскай.[8]

Выняткі з ліста Архібіскупа Альбіна Сымона да Папы Лявона XIII. Ліст напісаны ў Рыме 2 верасьня 1896 г. Яго копія рукі самога аўтара знаходзіцца ў Беларускім Архіве ў Лёндане. Ліст напісаны па лаціне.

---

[2] Каранацыя Мікалая II адбылася ў Маскве 14 траўня 1896 г.

[3] У арыгінале: „Et certe nemo negabit in dioecensi minscensi plebem simplicem catholicam loqui dialectum propriam."

[4] У арыгінале: „...curarunt edere in eorum dialecto."

[5] Праўдападобна аўтар ліста мае на ўвазе наступныя выданьні катахізмаў:

а) Выданьне катахізмоўкі ў Вільні ў 1835 г. Нягледзячы на польскі загаловак: „Krótkie zebranie nauki chrześcijańskiej dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rz.-katolickiego", напісана гэта кніжачка даволі чыстай беларускай мовай.

в) У 1845 г. такжа ў Вільні вышаў катахізм, частка якога напісана на беларускай мове.

с) У 1862 г. ў Варшаве вышаў: „Elementarz dla dobrych dzietok katolikoŭ."

Усе 40 бачынак надрукаваны па беларуску.

Пры канцы XIX стаг. ўсе гэтыя выданьні былі ўжо рэдкасцю, ня кажучы аб бедненькім іх зьмесьце.

[6] У 1774 г. полацкія езуіты выдалі зборнік песьняў: „Kantyczka, abo nabożne pieśni w narzeczu połockim."

Ведама такжа, што «Вестнік Зап. Россіі» за год 1876 пісаў аб некім катахізьме, парахвіяльных навуках і аб некалькіх песьнях у беларускай мове.

[7] У тым часе магілёўская сэмінарыя знаходзілася ў Пецярбурзе.

[8] Выглядае, што аўтар мае на ўвазе латышскую мову і яе латгальскі дыялект. Латгалія тады належала да магілёўскай Мітраполіі.

---

## *З лістоў у рэдакцыю*

АМЭРЫКА-МАССАЧУЗЭТ: З Вялікім Сьвятам Ражства Хрыстова і Новага Году віншую Вас і ўсіх супрацоўнікаў «Беларускай Вёскі» у Лёндане, дзе ёсьць рэдакцыя «Божым Шляхам», Беларуская Школа, Царква, Музэй і Архіў. Жадаю ўсім Вам самага найлепшага здароўя, шчасьця і радасьці, каб маглі далей працаваць на карысьць нашага народу і на славу Ўсёмагутнага! А ў нас ёсьць мода, нават старшым паважным людзям, даваць сьвяточныя падаркі. Хоць Вы маеце вялікія заслугі, на жаль, гэтага я ўчыніць ня мог. А што ёсьць магчымае, прашу ласкава прыняць, хоць гэтую зялёную паперку ($ 5.00) — прыміце ад мяне і ад маей сям'і. Цалую Вас усіх — з Новым Годам!

Вашыя Н-А-Г Л.

*

РАДЫЁ-ВАТЫКАН: — Спары, Божа, на Вашай Ніве! —

Нараджэньне Хрыста 1970.
Монс. П. Татарыновіч

*

ПАРЫЖ: Дарагі айцец Юзік!

Прыйміце ад мяне, старога работніка, самыя найлепшыя прывітаньні з Ражством Хрыстовым і з Новым Годам.

Абыймаю Вас і жадаю Вам многая і многая лета і здароўя, і шчасьця і посьпеху ў Вашых трудах. I мае прывітаньні ўсім Вашым братом марыянам!

Ваш Айцец Павал Шалей.

*

Нью Ёрк-ТРОЙ: Дазвольце з гэтым лістом перасланаць Вам Калядныя і Навагоднія павіншаваньні і пажадаць Вам здароўя, здароўя і яшчэ раз здароўя на радасьць усім беларусам у сьвеце. Дай, Божа, плёну ў вашай патрэбнай працы і вітаю Вас з новым творчым посьпехам — дудоўнымі Прыповесьцямі паводле Эвангельля Матэя-Марка-Лукі-Яна. Гэта сапраўды вялікі ўклад у нашу духоўную і мастацкую літаратуру. Дзякуй Вам ад чытача і пасяброўску цісну Вам руку, як Ваш сябар па пяру. Жадаю спору і плёну ў Вашай далейшай працы на карысьць нашага абяздоленага народу. Жыве і жыць будзе беларускае прыгожае слова!

Яшчэ раз найлепшыя зычэньні.

З глыбокай пашанай

У. Глыбінны.

*

ФРАНЦЫЯ — Шато д'Авуаз- Перасылаю мае найшчырэйшыя пажаданьні Вясёлых Каляд і Шчасьлівага Новага Году 1971-га ў здароўі і плённай працы для Бога і Бацькаўшчыны. 50 франкаў н. далучаю (у абмене анг. ф. 3,14.0).

Е. Т.

*

АНГЛІЯ — ЛЮТОН БЭДС: Пасылаю £ 2.0.0. за 8 нумароў «Божым Шляхам» і £ 3.0.0 — на дом. Разам £5.0.0. — З нагоды Сьвята Божага Нараджэньня жычу Вам Вясёлых Сьвят і Шчасьлівага Новага Году 1971.

Т. П.

*

КАНАДА — ТАРОНТО: Дарагога пакутніка за веру і праўду Хрыстову вітаю з Ражством Хрыстовым і Новым 1971-м Годам, ад усей душы жадаючы Вам і ўсім хто з Вамі — здароўя, радасьці, шчасьця і добрай душпастырскай працы на ніве Хрыстовай на многая лета!

Вам з любоўю адданы А. Я. Таронто 1970. П. С. Ветліва прашу прысылаць мне Ваш часапіс «Божым Шляхам». Пасьля высылкі грошаў не атрымаў я ані аднаго нумару часапіса. Сусед мой С. ужо атрымаў часапіс. Шчасьлівага Новага Году!

*

АЎСТРАЛІЯ — АЛБАНЫ: Даражэнькая Рэдакцыя!

Жадаю Вам Вясёлых Сьвят і шчасьлівага Новага 1971 Году шмат усяго добрага, асабліва здароўя і сілы, памысна спаткаць 21-ае стагодзьдзе! Восенскага нумару «Божым Шляхам» яшчэ не маю, хіба яшчэ недзе блукае па сусьвеце? Вельмі дзякую за тыя, што прыслалі — залеглыя — адразу ўсе! Гэтае, што цяпер высылаю, пісаў некалькі тыдняў, а на машынцы стукаў некалькі вечароў; а жонка ніразу не пасварылася, што «ляпаў». Учора пісаў і якраз прыехаў мой прыяцель з за трыццаці міль і кажа:

— Што, ўсё пішаш?

А ягоная жоннка кажа: — Каб вы апісалі нашую фарму, як мы пакутуем?..

А мая, мне на зьдзіўленьне, кажа: — Хай здароў піша, людзі-ж яго чытаюць, значыць, будзе карысьць: відаць, нешта талковае.

Пагода у нас крыху паправілася- стала цёплае надвор'е, хоць і веюць вятры неслабыя. Ч. К.

*

БРАЗЫЛІЯ — Ріо-дэ-Жанэйро.

Вітаю Дастойнага Біскупа Чэслава Візытатара беларусаў, а. Язэпа, а. Тамаша, брата Міколу, тай усіх братоў-сяброў беларусаў з Новым 1971 Годам і з Нараджэньням Хрыстовым! — а. Язэпа вітаю з 80-мі ўгодкамі дый жадаю ад шчырага беларускага сэрца: здароўя, духоўнай і фізычнай сілы, супакою і магчымасьці ў творчай працы рэдактарскай, пісьменніцкай, поэтычнай і багатых Божых ласкаў — Сто Год!

а. Язэп — вялікі дзеяч нашага народу, змагар за Божую сьв. апостальскую экумэнічную Царкву, за беларускі народ, яго культуру — на чужыне і ў паднявольнай Бацькаўшчыне!

Шчыра дзякую сп-ні А. А. з Вашынгтону за $ 5.00. Турбуюся, што не плачу за «Божым Шляхам»: вельмі цікавы і патрэбны, карысны часапіс — ня толькі мне, старому дзеду, але і вельмі многім. — Гадкоў маю 79 і нямала цяжкой хворасьці, а найгорш тое, што знасілася сэрца. Пакрысе неяк лячу сам сябе і яшчэ ківаюся, змагаюся з жыцьцём, малюся.

Дзякую Богу за ўсё і ў с і м!

14. XII. 1970. Др. Язэп Пашкевіч.

*

НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ — Вэллінгтон:

Выбачце, што толькі цяпер высылаю крыху грошаў (8.00 $) на «Божым Шляхам» і на Беларускую школу. Але я маю трое дзяцей і пасылаю іх у парахвіяльную школу, за што трэба плаціць, а таксама сплачваю дом, аднак цяпер буду старацца прысылаць часьцей. — Калі ласка перадайце прывітаньне а. Гарошку! М. К.

*

КАНАДА — КОБУРГ: Слава Ісусу Хрысту!

Высылаю грошы на «Божым Шляхам» — 4.00 $, і 2.00 на бел. школу у Англіі. I хачу дастаць кніжку а. Гэрмановіча «Кітай-Сібір-Масква» — успаміны — 3.00 $. I а. Гарошкі «Паходжаньне чалавека», «Душа» і «Сьв. Эўфрасінія Полацкая». — Як будзе больш каштаваць і за почту — даплачу. М. П-к.

*

АНГЛІЯ — Варвік: Усяго найлепшага з нагоды Каляд і Новага 1970 Году. Адначасова прашу

прыняць грошы на аплату «Божым Шляхам» за 1971 год у суме £ 1.0.0. і для рэдактара 1.00.

З глыбокай пашанай У. С.

*

АЎСТРАЛІЯ — Ст. Альбанс: У 80-ую гадавіну жыцьця жадаю Вам шчасьць, здароўя і сілаў у далейшай плённай працы на рэлігійнай, літаратурнай і грамадзкай ніве. — Разам з лістом надыйшоў і часапіс № 4... Дзякую за запросіну да супрацоўніцтва. Некалі давялося мне быць пісьменнікам, друкавацца у розных выданьнях. Цяпер прафэсія мая — Бойлермакер. Спалучыць адно з іншым Бог ня даў мне таленту.

Ваш успамін «Кітай-Сібір-Масква» і казку «Князь і Лапаць» прачытаў з цікавасьцяй. Чытаю «Прыповесьці» паводля Эвангелля. Выданьне іх асобнай кніжыцай — вельмі пажаданае і карыснае: яно трапіць у шмат якія рукі, зьняможаныя працай, але патрабавальныя адпачынку для душы...

У нас лета. Першыя дні усьміхнуліся дабразычлівым сонейкам. Вясны амаль ня было у штаце Вікторыя. Праз тры месяцы засьвяцілася пара цёплых дзён, рэшта — дождж, град, сьнег, халодныя вятры з мора.

Калі-б трапілася Вам магчымасьць адведаць Аўстралію, мы будзем вельмі рады Вас бачыць і Вы будзеце вялікім госьцем у нас. А. К.

*

ЧЫКАГА: — Вясёлых Каляд і Шчасьлівага Новага Году! Дай, Божа, ўсяго найлепшага! — Нам вельмі падабаліся апошнія нумары «Божым Шляхам». Прашу напісаць, што чуваць з ангельскім перакладом вашых успамінаў? — Канцэрт у памяць праф. Куліковіча адбыўся удала: падтрымалі з Дэтроіт добрыя салісткі. — Яшчэ раз жадаем здароўя і многа ласкаў Божых! В. М.

*

АМЭРЫКА — Эгг Гарбор Сіті: Вітаем! Жадаем усяго найлепшага, асабліва здароўя. Укладаем 10.00 $, як падпіску на «Божым Шляхам», а рэшта — на школу.

З глыбокай пашанай Л. А. С.

---

# Перапіс насельніцтва ў Польшчы

Першы перапіс пасьля І-ае вайны. Мой малодшы брат быў таксама адным з камісараў, назначаны гмінай. Сама функцыя была ганаровая, бясплатная. Камісарамі былі пераважна ўрадоўцы, напр. настаўнікі і інш. Пасьля даваліся адзнакі «за ахвярную працу», — бронзавыя шпількі.

Перад пачаткам перапісу прыяжджаў рэфэрэнт ад староства: на зборцы прысутнічалі ўсе назначаныя камісары. Рэфэрэнт даваў інструкцыі, як запаўняць сьпісовыя бляшкі. Трэба адцеміць, што вельмі цікавая была рубрыка «народовосьць» і «ензык мацежысты».

Рэфэрэнт зазначыў, што ў гэтых ваколіцах знаходзіцца шмат г. званых «бялорусінув», а пан стараста не жадае, каб пісалі гэтае слова, бо сапраўды такая нацыя ня існуе. Калі яны ня ведаюць, якой нацыянальнасьці, дык пісаць «польска». Яшчэ здараецца, кажуць людзі, што яны тутэйшыя і іх мова простая, дык і тады пісаць «польска», а не якая іншая.

Мой брат задаў пытаньне: «А калі будзе хто дамагацца, каб напісалі, што ён беларус?» Рэфэрэнт адказаў, што ў выпадку можна пісаць- «мова бялоруска».

Вось посьле гэтага перапісу ў нашай грамадзе аказаўся толькі адзін паляк, а гэта быў прыезды гандляр. Можна сабе ўявіць, як выцягнуліся твары ў галоўных камісараў, як пабачылі гэты вынік! У іншых грамадах было горш, бо там працавалі палякі і людзі муселі ваявацць за тое, каб запісацца беларусамі.

Такая тады была справядлівасьць у Польшчы..

*

НЯМЕЧЧЫНА: Надумаўся я з сваім сынам наведаць Англію. Якраз у поўначы а гадз. 0,24 адыходзў наш цягнік. Народу было поўна, адно добра, што да Остэнды ня трэ' было перасядаць. Мінулі Мюнстэр і усю Рурскую акругу, затрымка ў Эссэн, Дюссэльдорф, Кёльн і вось мы на граніцы ў Аахэн. Хуткі кантроль і мы — у Бэльгіі! Едучы ўначы, нельга пабачыць, як выглядаюць ваколіцы, горы аднак паказвалі сябе і зьявіўся першы вялікі горад Люттіг. А 9-ай прыбылі у Бруссэль, далей Гент і а 10-ай ужо Остэнда, грузімся на карабель, каб перабрыць Ля-Манш да Дувэру. Зноў кантроль пашпартоў...

Мора на дзіва спакойнае, толькі імгла — вялікая. Далей цягнікам аж да Лёндану. А пагода дрэнная: сьнег, імгла; але мы ўжу ў падземцы! і ст. Вудсайпарк. Пару мінутак і мы — ў Марыян Гауз і спаткаў нас а. Язэп. Якіх гадоў сорак таму мне прышлося спаткаць у Вільні а. Язэпа. Памаліўшыся ў царкве, перайшлі ўпоперак вуліцу і аказаліся ў доме сьв. Кірылы. Нарэшце ўбачылі а. Алеся, а пры вячэры, прывітаўшыся з Уладыкам, пазнаёміліся з а. Фэліксам і а. Тамашом.

Ціха, мірна тутака: успамінаем Бацькаўшчыну і народныя звычаі калядныя і нава-годнія. У розных частках Беларусі сьвяткавалася па рознаму, але асноўнае было тое самае. На другі дзень — мы ўжо ў цэнтры гораду: аглядаем музэі, якіх у Лёндане — поўна, галерэі абразоў, палацы і інш. Праўду кажучы, ёсьць тут што пабачыць! Дый каб захацеў усё агледзіць, дык трэба было-б з паўгоду. А час ляціць і ўжо спатыкаем Новы Год 1971 дый Вадохрышча. Уладыка Чэслаў сам пасьвяціў сьвятой вадою ўсе будынкі «Беларускай Вёскі» абапал вуліцы.

А час паляцеў яшчэ хутчэй і трэ разьвітацца!

Бывайце здаровы, Дарагія Айцы. Хай Вам Магутны Бог дапамагае ў вашай працы на карысьць нашага гаротнага Народу!

Паміма вашай скромнасьці, Вы зьўляецеся волатамі.

Памажы, Божа!

Бывай, Лёндан, да наступнага спатканьня!

С. Г.

---

# ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ

На адным з прадмесьцяў гор. Бэрген у Нарвэгіі пабудавала фірма аднолькавыя домікі для аднае сям'і кожды. Дзеля таго, што заселены быў маладымі сем'ямі, у якіх былі невялікія школьнікі, дык дзеці блудзілі, вяртаючыся дамоў. Таму бацькі абдумалі на зборцы спосаб дагодны дзецям знайсьці сваю хату: згадзіліся памяшчаць на дзьвярах фото маткі. Гэта спадабалася і дзецям і бацькам. А нашым чытачам як здаецца?

*

ЖЫЦЬЦЕ можна разумець толькі тады, калі яго перажывеш. А якраз нам трэба далей жыць тую частку жыцьця, якой мы яшчэ ня ведаем. (Кіркегард). — Сапраўды, толькі цяпер я пачаў разумець, якая ў мяне была трагічная страта, калі я астаўся сіратою ад бацькі, маючы 2 гады! Напр., я ня меў адвагі выпытваць іншых аб тым, чаго не разумеў у школе (у расейскай, у польскай ці лацінскай мове). І пасьля праз доўгі час я мусіў сам даходзіць і напраўляць свае бракі. Так у мяне аставалася шмат недахопаў і завілінаў у характары. Праўда, пры выхаваньні дзяцей, я нямала чаго пераняў ад іх з таго, чаго не разумеў дастаткова, але і выхаванкам я патрапіў выясьняць дакладней, чым іншыя пэдагогі, бо кажная дробязь у жыцьці мне дорага давалася і я мусіў усё здабываць сам. — Значыць, цяпер, маючы 80 гадоў, я ўжо мог-бы пачаць новае жыцьцё — больш практычнае і карысьнейшае. Але . . . скуль гэтыя новыя — «малодшыя» гады ўзяць? Бо жыцьцё ня адступае назад і мушу далей жыць у веку не спрактыкаваным, а маё далейшае — «новае» жыцьцё будзе штораз старэйшым і для мяне ня ведамым . . . І здольнасьці, розум, і памяць і воля слабеюць, як і фізычная сіла. — Трэба пісаць на чыстай, без лінеяк, паперы; а пяро сьпісалася і рука дрыжыць, а вочы бачаць слабей дый памяць прытупела. Гэта прыклад. — А мне якраз трэба далей тварыць, а не пісаць аўтабіяграфію жыцьця! . .

а. Я. Г.

*

УВАГА! Амэрыканцы маладзеюць: працэнт моладзі павялічваецца і трэба дзецям больш школаў і вышэйшых будынкаў-клясаў, бо растуць буйней, чым да гэтага часу дый лаўкі для вучняў мусяць быць прастарнейшыя, бо хлапцы ўжо ня могуць зьмясьціць ног у даўнейшых адпаведных лаўках. Ёсьць тут студэнт з Амэрыкі, які вырас гэтулькі, што на галаву вышэйшы ад самых высокіх людзей! . . І ў Японіі дробны народ пачаў буйна расьці. — Калі так пойдзе далей, дык што стане з дзецьмі цяперашней моладзі? і г. д. Але ці ў выхаваньні моладзь расьце таксама?

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Др. П. Г. Чыкаго: $ 20.00. — В. Ч. Б.: $ 10.00. — Г. М. з Валіі: за прысланую кніжку дзякую! С. Г. Нямеччына — 50.00 марак і Ч. К. 20.00, — Я. К. Нью Ёрк — за цёплыя словы дзякую! — і А. Ш. — таксама! — і др. В. Т. ліст атрымалі. Др. В. і В. Р. Чыкаго $ 5.00 — дзякуем. За вестку аб перакладзе на гішпанскі дзякую — В. С. — Гішпанія! — В. П. Чыкаго: Ліст з заўвагай атрыманы, але аднатацыі рэдакцыя не разумее. — Рэв. Я. П. Сіракюз, Нью Ёрк: — За сымпатычны ліст і за «водклікі» вельмі дзякуем! — Т. Ш. Амэрыка — Пуэблё: $ 3.00, — Л. і А. С., Нью Джэрсі — 10.00, — У. С. Варвіск, Англія £ 2.0.0. — Н. П. Канада, Онт. $ 4.00, — Н. Ж. на выдав. фонд £ 10.0.0. — У. Г. Амэрыка — Трой: Клішэ Вам адсылаю. — З. О. Аўстралія — Конкорд — £ 6.0.0, А. А.: Вашынгтон $ 5.00, — П. П. Англія £ 1.0.0. і С-а £ 1.0.0, — Ю. В. 1.0.0, — В. С. 1.0.0, — А. М. Канада $ 5.00, — І. П. Линдан £ 2.0.0, — С. Б. Ковэнтры £ 1.0.0, — В. Б. £ 1.0.0, — Т. Ш. Францыя £ 0.15.0, — С. М. Бэльгія £ 2.0.0. — Рэдакцыя усім дзякуе! Калі праз неувагу каго абмінулі, перапрашаем. На Міласьць Божую і на гонар людзкі просім Паважаных Чытачоў хутчэй адсылаць падпіску і — паводле магчымасьці — ахвяры на выдавецкі фонд. — Дзякуем!

Рэдактар Я. Г.

# Думкі з прачытаных кніжак

(Увага: Думкі гэтага філязофа вельмі блізкія хрысьціянскім, хоць даходзіў да іх толькі чыстым розумам, без Божага аб'яўленьня і пад уплывам індускай мудрасьці).

*

Чалавек, жывучы ў грамадзтве, павінен мець крыху... духу, што супраціўляецца злу дзеля самаабароны. Але гэта патрэбна толькі вонкава, каб памешаць нягодным людзям сапраўды прычыняць вам шкоду. Аднак у тым самым часе вы самі не павінны шкодзіць нікому на той падставе, што ён зрабіў вам нешта благое... Не змагайцеся са злом, плацячы злом за зло.

ПЫТАНЬНЕ: «Але калі чалавек гневаецца на мяне, я адчуваю сябе няшчасьлівым. І я адчуваю, што не магу ўсіх любіць аднолькава.»

РАМАКРЫШНА: — Калі вы гэта чуеце такім спосабам, дык вы павінны пагаварыць з такім чалавекам і пастарацца з ім пагадзіцца. Калі-ж вам такія спробы не ўдадуцца, вы не павінны больш аб гэтым думаць. Шукайце сховішча ў Госпадзе. Думайце аб Ім. Няхай ваш розум не хвалююць ніякія іншыя справы.

РАМАКРЫШНА: — Вы павінны любіць усіх, таму што Бог жыве ў ва ўсіх істотах. Але благім людзям лепш кланяцца здалёку. **Сапраўды пабожны чалавек заўсёды спакойны.** — Ён падобна кавадлу каваля будзе цярпець усе крыўды і ўсялякі прасьлед і аставацца цьвёрдым у сваей веры і заўсёды аднолькавым. Злыя людзі могуць гаварыць пра вас шмат усялякага няпрыемнага і лаяць вас, але, калі вы прагнеце Бога, дык вы будзеце ўсё пераносіць цярпліва. Чалавек можа думаць аб Богу нават сярод самых нягодных людзей. Даўнейшыя мудрацы, жывучы ў лесе, маглі размышляць аб Богу, акружаныя тыграмі, мядзьведзямі ды іншымі дзікімі зьвярамі. Прырода злога чалавека падобна да прыроды тыгра ці мядзьведзя. Яны нападаюць на нявінных і прычыняюць ім гора або шкоду. —

Вы павінны быць асабліва асьцярожны найперш пры спатканьні з багатымі. Чалавек, уладаючы багацьцем і маючы шмат прыслужнікаў, лёгка можа прычыніць шкоду другому, калі захоча. Вы павінны быць заўсёды насьцярожаным, гаворачы з ім. Часам магчыма нават паказацца патрэбным згадзіцца ў чым-небудзь з ягонымі думкамі.

Па другое — з сабакай. Калі сабака на вас брэша, вам ня трэба ўцякаць, гаварыце да яго спакойна і ён успакоіцца.

Пасьля — з п'яным чалавекам. Калі вы яго разгневаеце, дык ён будзе лаяцца і называць вас дрэннымі словамі. Але, калі вы загамоніце да яго, як да дарагога сваяка, ён будзе пачуваць сябе шчасьлівым і будзе нязвычайна прыязны да вас.

Калі злыя людзі прыходзяць да мяне, я вельмі асьцярожны. Характар некаторых з іх падобны да характару гадзіны. Яны могуць укусіць вас, самі ня ведаючы аб гэтым за мінутку да таго. Можа патрабавацца нямала часу і зразуменьня на тое, каб мінулася ўражаньне ўкусу. А можа здарыцца, што і вы захочаце адплаціць яму... Дзеля таго неабходна ад пары да пары бываць у таварыстве сьвятых людзей. Праз зносіны з імі ў чалавека ўстанауляецца яснае зразуменьне і распазнаваньне людзей...

Вярблюд любіць калючыя расьціны, і хоць ён разьдзірае сабе рот, ядучы іх, усё-ж ён не перастае любіць іх і яго нельга паўстрымаць, каб ён іх ня еў.

---

## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПРЫКАЗКІ

Або грай, або грошы аддай!

Абы Бог і добрыя людзі, то ўсё добра будзе.

Абы мне месяц сьвяціў, а зоркі — як хочуць.

Адзін і пры месяцы робіць, а другі і пры сонцы сьпіць.

Але-ж гаспадыня — два агароды, адна дыня!

А на чай выбачай!

А ў нашай Пальшчы кожны хоча быць бальшы.

Ах, я і забыўся, што ажаніўся: падай, жонка, піць!

Баба качаргу прадала і то барыш піла.

Бабка сьпіць, а гусей пасе.

Бацька няхай ідзе араць, яго валы знаюць, а я пайду ў карчму, мяне людзі чакаюць!..

Бедны Бога памятае, а багаты ўсіх забывае.

# Жарты нашыя і іншыя

ФАБІЯН: — Дзіўна, што як Брэжнёў памірыўся з Брандтам, значыць, з немцамі, дык і ён сам і ўся Масква сьпяць спакойна. А як Гамулка памірыўся з немцамі, дык ў Пальшчы пачаліся бунты і сам Гамулка захварэў?..

НАРЦЫЗ: — Нічога дзіўнога! Бо, калі мядзьведзь памірыцца з ваўкамі, дык усе яны сьпяць спакойна; а калі баран памірыцца з ваўком, дык прападзе ўся аўчарня!..

*

З НЯМЕЦКАГА ГУМАРУ: — Калі доктар возьме з пацыента 50 марак, дык гэта нічога, бо і яму трэба жыць.

І калі аптэка возьме з таго пацыента таксама 50 марак, — таксама нічога, бо й аптакару трэба жыць.

А калі пацыент выкіне лякарства далоў, дык што тады? — Таксама нічога, бо... і яму трэба жыць!

*

З САВЕЦКАГА: — Атэісты забаранілі гаварыць на полі: «Памажы, Божа!» Тады ў калгасах пачалі гаварыць: «Дарма робіш!» А другі адказвае: «Праўду кажаш!»

З «НАВУКІ»: Дыспутавалі тры вучоныя — два з Заходу і адзін з Усходу, чыя навука стаіць вышэй?

З Заходу адзін, доктар, гаворыць: — Наша навука вышэйшая, а ў ёй — мэдыцына, бо найперш Бог дакана́ў апэрацыю: выразаў рабро ў мужчыны і стварыў з яго жанчыну.

А другі кажа: — О, не! вышэйная архітэктура, бо перш Бог зрабіў сьвет з нічога і пасьля ўсё разбудоўваў...

Але трэці — з Усходу, савецкі — кажа: — Наша навука сама паступовая і найвышэйшая, бо найперш быў хаос і ён быў вечны дый ён усё іншае і тварыў, — саматугам...

*

З КІТАЙСКАГА: — Англічанін пытаўся ў кітайца: «Ці праўда, што Мао-Цэ-Дун найразумнейшы з цэлага сьвету?

— Праўда!

— А як вы пераканаліся?

— Бо ён сам так казаў!

— Ну, мае пацыенты ўсе так гавораць...

(А гэты доктар быў дырэктарам у бальніцы для вар'ятаў).

ЗЬМЕСТ



Druck: „Logos" GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14